Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Учота БССР



# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 25-26

СНЕЖАНЬ 1934 Г.

МЕНСК — 1934

# Да усесаюзнага перапісу жывёлы.



## Аб статыстыцы жывёлагадоўлі і дыскусіі ў „Праўде“

### Пастанова Цэнтральнага Камітета ВКП(б)

I.

Рэдакцыя „Праўды“ правільна паставіла на сваіх старонках пытанне аб крайне нездавальняючай пастаноўцы ўчота пагалоўя жывёлы і прыкавала к недахопам учота ўвагу партыйных і савецкіх арганізацый:

1. Існуючая сістэма ўчота жывёлы не дае правільных даных аб наяўным пагалоўі, з прычыны таго, што

а) учот пагалоўя статыстычна не арганізован, а аснован на даных апаратыўнага ўчота ведамстваў і з унясеннем недастаткова ўгрунтаваных паправак;

б) падатковы ўчот Наркамфіна, які служыць для мэтаў абкладання і страхавання жывёлы, не дае поўнага ўчота жывёлы, у асаблівасці не падлягаючага абкладанню і страхаванню маладняка, а таксама жывёлы, якая знаходзіцца ў гарадскіх паселішчах;

в) праведзены Наркамземам СССР учот пагалоўя жывёлы па становішчу на 1 студзеня 1934 г. быў пабудаван на основе паведамленняў трымальнікаў жывёлы сельсовету аб колькасці наяўнай у іх жывёлы і праведзен вельмі нездавальняюча;

г) праверка, правадзімая органамі ЦУНХУ (кантрольныя абходы), ахапляе толькі 1, 5—2 проц. гаспадарак, пастаўлена нездавальняюча і недастаткова для ўнясення зусім дастоверных паправак на недаўчот;

д) апарат ЦУНХУ не укамплектован даволі кваліфікаванымі і палітычна надзейнымі работнікамі, а ў паасобных раёнах засмечан чужымі людзьмі.

2. Важнейшым недахопам сістэмы ўчота жывёлы з'яўляецца адсутнасць правераных параённых даных з прычыны таго, што ЦУНХУ недастаткова кіравала статыстыкай жывёлагадоўлі ў раёне. Гэта не дае магчымасці раённым арганізацыям канкрэтна планаваць і кіраваць гаспадарчымі мерапрыемствамі па аднаўленню жывёлагадоўлі.

II.

1. Аднак, пры асвятленні гэтага пытання рэдакцыя „Правды“ дапусціла ў карэспандэнцыі аб Сальскім раёне і часткова аб Паўла-Пасадскім раёне публікацыю неправерaных і недакладных даных аб фактычным недаўчоце жывёлы. Разам з тым, рэдакцыя „Правды“ дапусціла няправільную агульную характарыстыку нізавога апарата органаў народна-гаспадарчага ўчота, што затрудняе ўскрыванне канкрэтных і сапраўдных віноўнікаў ашуканства, „очковтирательства“ буржуазных тэндэнцый і скажэння сапраўднага становішча рэчаў, маючых месца ў паасобных органах народна-гаспадарчага ўчота.

2. Тав. Осінскі ў разгорнутай на старонках „Правды“ дыскусіі аб учоце жывёлы не даў сапраўднай характарыстыкі вельмі кепскага становішча ўчота пагалоўя, праводзіў ведамственую і агульную абарону ўсёй сістэмы народна-гаспадарчага ўчота, не мабілізуючы яе на рашучае паляпшэнне статыстыкі жывёла-гадоўлі, супакойваючы на тым, што даныя ЦУНХУ „несумненна блізка падыходзяць к сапраўднасці, і імі можна ўпэўнена карыстацца“, і тым самым уступіў у супярэчнасць з данай ЦК ацэнкай нездавальняючага становішча ўчота жывёлы.

3. Азначыць, што т. Осінскі і рэдакцыя „Правды“ ў разгорнутай палеміцы прымянялі недапушчальныя ў партыйным друку пры дзелавым абмеркаванні пытання выпады і выразы (памылковае абвінавачванне з боку т. Осінскага рэдакцыі „Правда“ ў тым, што апошняя лічыць, што „не *жывёлагадоўля* у нас у дрэнным становішчы, а *толькі ўчот* жывёлагадоўлі“, абвінавачванне рэдакцыяй „Правды“ т. Осінскага ў „штэмпеляванні блытаных і шкодніцкіх даных“ і т. д.).

III

Для рашучага паляпшэння пастаноўкі ўчота жывёлы:

1. Прапанаваць ЦУНХУ у дэкадны тэрмін увайсці у СНК СССР з канкрэтным планам разгортвання сеткі ўчастковай інспектуры і планам мерапрыемстваў, забяспечваючых раённым органам ЦУНХУ кіраўніцтва ўсёй справай статыстычнага ўчота ў раёне.

2. Прапанаваць ЦУНХУ і НКФ распрацаваць і ўнесці на зацвярджэнне СНК СССР у пяцідзённы тэрмін мерапрыемствы, забяспечваючыя павышэнне якасці чэрвеньскага (1934 г.) падатковага ўчота, ахвату ім жывёлы ўсіх узростаў, арганізацыі кантрольнай праверкі, а таксама правядзення ўчота жывёлы ў неабкладаемых НКФ гаспадарках.

3. Прапанаваць ЦУНХУ дэтальна падрыхтаваць і правесці перапіс жывёлы па становішчу на 1 студзеня 1935 г., ахапіўшы ўсе гаспадаркі, як трымаючыя жывёлу ў аднаасобным карыстанні, так і дзяржаўныя і калгасныя. Адначасова з перапісам правесці кантрольны абход 10 проц. гаспадарак.

4. Пацвердзіць рашэнне оргбюро ад 25 лютага г. г. аб умацаванні кадраў раёных інспектароў учота і абавязаць абкомы і крайкомы разам з ЦУНХУ ў месячны тэрмін праверыць асабісты склад работнікаў НХУ і укамплектаваць нізавыя органы НХУ кваліфікаванымі і палітычна праверанымі работнікамі.

5. ЦК абавязвае мясцовыя партарганізацыі аказваць дапамогу нізавым органам НХУ ў рабоце па учоту жывёлы.

16 мая 1934 г. **ЦК ВКП(б)**

---

## Аб усесаюзным перапісе жывёлы на 1-е студзеня 1935 года

*Пастанова Совета Народных Камісараў Саюза ССР.*

У мэтах забеспячэння дзяржаўнага плана развіцця жывёлагадоўлі дакладнымі заходнымі данными аб колькасці пагалоўя паасобных відаў жывёлы ў краіне і якасным складзе жывёлы (пароднасць і прадукцыйнасць), а таксама аб становішчы жывёлагадоўчых гаспадарак, Совет Народных Камісароў Саюза ССР пастанаўляе:

1. Даручыць Цэнтральнаму ўпраўленню народна-гаспадарчага ўчота Дзяржплана Саюза ССР правесці па становішчу на 1-е студзеня 1935 г. усесаюзны перапіс коняй, буйнай рагатай жывёлы, авечак, коз, свінней, вярблюдаў, аслоў і мулаў у сельскіх мясцовасцях, гарадах і паселішчах гарадскога тыпу, за выключэннем найбольш далёкіх раёнаў крайняй поўначы.

Даручыць Цэнтральнаму ўпраўленню народна-гаспадарчага ўчоту Дзяржплана СССР правесці масавую кантрольную праверку даных перапісаў, ахапіўшы ёю 10 проц. гаспадарак калгаснікаў і аднаасобных гаспадарак.

2. Адначасова з колькасным ўчотам жывёлы абавязаць Цэнтральнае ўпраўленне народна-гаспадарчага ўчота Дзяржплана Саюза ССР, на аснове даных Наркомземам, Наркомсоўгасаў і іншых наркаматаў, якія маюць жывёлагадоўчыя гаспадаркі, а таксама Цэнтрасаюза, правесці ўчот пароднага складу коней, буйнай рагатай жывёлы, авечак і свіней ва ўсіх гаспадарках, а ўчот прадукцыйнасці жывё-

лы толькі ў гаспадарках, дзяржаўных, кааперацыйных, грамадскіх арганізацый і ў калгасах (па абагуленаму стаду).

3. Абавязаць Цэнтральнае ўпраўленне народна-гаспадарчага ўчоту Саюза ССР пры правядзенні перапісу па жывёлагадоўчых соўгасах, калгасных таварных ферм і буйных жывёлагадоўчых гаспадарках ОРС'аў правесці ўчот забяспечанасці гэтых гаспадарак жывёлагадоўчымі будынкамі і ўстаноўкамі (сіласнымі і кормаапрацоўчымі ўстаноўкамі, інкубатарамі і інш.), кармамі і ўласнай кармавай базай (пасевамі кармовых культур, сенакосамі і пасбішчамі), кадрамі розных спецыяльнасцей (зоатэхнікамі, ветэрынарамі, даяркамі, свінарамі і інш.), а таксама ўчот асноўных паказальнікаў арганізацыі працы (прэміяльна-здзельная аплата, брыгады, цякучасць).

4. Абавязаць народныя Камісарыяты земляробства, зернавых і жывёлагадоўчых соўгасаў, харчовай прамысловасці, знешняга гандлю і іншыя народныя камісарыяты, якія маюць жывёлагадоўчыя гаспадаркі, а таксама Цэнтрасаюз загадзя, да пачатку перапісу, правесці інвентарызацыю ўсей наяўнай у іх соўгасах жывёлы з вызначэннем яе пароднага складу і пашпартызацыю асабліва каштоўных у пародных і прадукцыйных адносінах жывёл.

5. Абавязаць дырэктароў соўгасаў і кіраўнікоў ОРС'аў пад іх асабістую адказнасць не пазней 15 студзеня 1935 г. закончыць складанне гадавых справаздач аб гаспадарчай дзейнасці гэтых арганізацый за 1934 год у галіне жывёлагадоўлі з тым, каб з гэтых гадавых справаздач маглі быць атрыманы даныя, неабходныя для перапісу (абарот стада, вынікі злучной кампаніі, паказальнікі прадукцыйнасці, абарот кармоў і т. д.).

6. Абавязаць советы народных камісараў саюзных і аўтаномных рэспублік, краявыя, абласныя і раённыя выканаўчыя камітэты, гарадскія і сельскія советы:

а) разгарнуць сярод насельніцтва растлумачальную работу аб значэнні і задачах усесаюзнага перапісу жывёлы;

б) забяспечыць органы ЦУНГУ, якія праводзяць перапіс, неабходнай колькасцю палітычна праверадых і тэхнічна падрыхтаваць работнікаў для правядзення перапісу, шляхам прыцягнення да работы настаўнікаў, студэнтаў ВНУ і тэхнікумаў агразоатэхнічнага і ветэрынарнага персаналу, работнікаў абласнога (краявога) і раённага совецкага апарата;

в) забяспечыць работнікаў перапісу сродкамі перасоўвання ўнутры раёна.

7. Устанаваць, што асобы, віноўныя ва ўтойванні жывёлы, або ў процідзеянні перапісу, прыцягваюцца да крымінальнай адказнасці.

Старшыня Совета Народных
Камісараў Саюза ССР *В. Молатаў.*
Нам. кіраўніка спраў Совета Народных Камісараў
Саюза ССР *І. Межлаук.*

Масква, Крэмль. 15/XI—1934 г.

---

## Аб усесаюзным перапісу жывёлы на 1 студзеня 1935 г.

**Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б ад 1 снежня 1934 года.**

Выходзячы з велізарна-гаспадарчага палітычнага значэння ўсесаюзнага перапісу жывёлы на 1 студзеня 1935 года, бюро ЦК КП(б)Б пастанаўляе:

1. Прапанаваць ГК і РК КП(б)Б, палітаддзелам МТС і соўгасаў неадкладна разгарнуць шырокую масава-растлумачальную работу сярод насельніцтва вёскі і горада і работнікаў жывёлагадоўлі аб задачах і значэнні перапісу ў святле праверкі рашэнняў XVII партз'езда, пленума ЦК ВКП(б) і СНК СССР і аб адказнасці за ўтойванне жывёлы, дачу няправільных вестак аб жывёле і процідзеянне перапісу.

2. На бюро РК і ГК з удзелам парторгаў і старшынь сельсоветаў абгаварыць план правядзення перапісу па раёну і намеціць мерапрыемствы, забяспечваючыя поўны ахоп усяго пагалоўя жывёлы і высокую якасць учотных даных.

3. Да 20 снежня намеціць і адабраць неабходную колькасць палітычна-правераных і тэхнічна падрыхтаваных работнікаў са складу сельскай інтэлегенцыі (настаўнікаў, аграномаў, зоатэхнікаў, ветработнікаў, студэнтаў) і раённага совецка-партыйнага актыва ў якасці рэгістратараў, абследвальнікаў і брыгадзіраў кантрольнай праверкі а таксама поўнасцю ўкамплектаваць штаты ўчастковых інспектароў наргасуліку.

4. Забараніць на час правядзення перапісу і прапрацоўкі матэрыялаў мабілізацыю работнікаў, звязаных з правядзеннем перапісу, на іншую работу.

5. Абавязаць НКЗем БССР, Упаўнаркомсоўгасаў, Белкаапсаюз і інш. арганізацыі, маючыя жывёлагадоўчыя гаспадаркі, забяспечыць сканчэнне баніпіроўкі і вызначэнне пароднасці жывёлы ва ўстаноўленыя тэрміны.

6. Кіраўніцтву Наргасуліка забяспечыць своечасовую арганізацыю і правядзенне перапісу, папярэдне праінструктаваўшы ўсіх работнікаў перапісу. З гэтай мэтай дазволіць КНГУ БССР арганізаваць у двух сельсоветах Пухавіцкага раёна 3-7 снежня вопытны перапіс, прапанаваўшы Пухавіцкаму райкому забяспечыць адпаведныя ўмовы для правядзення гэтай работы.

7. Абавязаць рэдакцыі газет „Звязда", „Рабочий". „Калгаснік Беларусі" і раённыя газеты забяспечыць на працягу падрыхтоўкі і правядзення перапісу сістэматычнае асвятленне ходу кампаніі.

Сакратар ЦК КП(б)Б *Валковіч.*

---

# АБ ПРАВЯДЗЕННІ ПЕРАПІСУ ЖЫВЁЛЫ НА 1-е СТУДЗЕНЯ 1935 г. ПА БССР

**Пастанова совета Народных Камісараў БССР**

Умэтах забеспячэння дзяржаўнага плана развіцця жывёлагадоўлі дакладнымі выходнымі данымі аб колькасці пагалоўя паасобных відаў жывёлы і якасным складзе жывёлы (пароднасць і прадукцыйнасць), а таксама аб становішчы жавёлагадоўчых гаспадарак—у адпаведнасці з пастановай ЦК ВКП(б) ад 16-V г. г. і СНК СССР ад 15-XI 1934 г.,— Совет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Даручыць кіраўніцтву народна-гаспадарчага ўліку БССР і яго раённай інспектуры правесці па ўсей тэрыторыі БССР па становішчу на 1 студзеня 1935 г. перапіс: коней, буйнай рагатай жывёлы, свіней, авечак і коз ва ўсіх катэгорыях гаспадарак і ўласнікаў жывёлы ў сельскіх мясцовасцях, гарадах і паселішчах гарадского тыпу, уключаючы і паласу адчужэння чыгуначнага, воднага і шасейнага транспарта з ахопам гаспадарак:

а) па дзяржсектару—у соўгасах (трэставаных і нетрэставаных), каапгасах, гаспадарках ОРС'аў, леспрамгасах, дзяржаўна-кааперацыйных і грамацкіх установах, гаспадарках і прадпрыемствах, адкормчных пунктах, скотабазах, пунктах прадубойнага ўтрымання і ва ўсіх іншых гаспадарках, маючых жывёлу;

б) па калгасах—жывёлу на фермах і па-за фермай, а таксама і ўсю жывёлу калгаснікаў;

в) аднаасобных гаспадарках—уключаючы жывёлу рабочых, служачых і саматужнікаў сельскіх мясцовасцей, гарадоў і гарадскіх паселішч.

2. Даручыць Кіраўніцтву народна-гаспадарчага ўліку БССР правесці масавую кантрольную праверку даных перапісу, ахапіўшы ёю 10 проц. гаспадарак калгаснікаў і аднаасобнікаў.

3. Адначасова з перапісам колькаснага складу жывёлы абавязаць кіраўніцтва народна-гаспадарчага ўліку БССР на падставе даных Наркамзема, Упоўнаркомсоўгасаў, Наркомлеса і інш. наркаматаў, якія маюць жывёлагадоўчыя гаспадаркі, а таксама Белкаапсаюз правесці ва ўсіх гаспадарках улік пароднага складу коней, буйнай рагатай жывёлы, свіней і авечак, а ў гаспадарках дзяржаўных, каапераныйных, грамадскіх арганізацый і ў калгасах (па абагуленаму стаду) правесці ўлік прадукцыйнасці жывёлы.

4. Абавязаць Кіраўніцтва народна-гаспадарчага ўліку БССР пры правядзенні перапісу правесці паглыбленае абследванне арганізацыйна-гаспадарчага становішча жывёлагадоўчых соўгасаў, калгасных таварных ферм і буйных жывёлагадоўчых гаспадарак, каапгасаў і ОРС'а ў як-та: зварот стада за 1934 г., прадукцыйнасць, забяспечанасць жывёлагадоўчымі будынкамі, устаноўкамі кормапераапрацоўчымі і сіласнымі, кармамі і ўласнай кармовай базы, кадрамі розных спецыяльнасцей і становішча арганізацыі працы.

5. Абавязаць Народны камісарыят земляробства, НК месцовай прамысловасці, Упаўнаркомсоўгасаў, Наркомлеса, Наркомцяжпрома, замежнага гандлю і іншыя наркаматы, якія маюць жывёлагадоўчыя гаспадаркі, а таксама Белкаапсаюз закончыць да пачатку перапісу інвентарызацыю ўсей маючайся ў іх гаспадарках жывёлы на становішчу на 1 студзеня 1935 г. з вызначэннем яе пароднага складу і пашпартызацыі асабліва каштоўнай жывёлы у пародных і прадукцыйных адносінах.

6. Абавязаць дыкрэктароў соўгасаў, калгасаў ОРС'аў і леспрамгасаў пад іх асабістую адказнасць, не пазней 15 студзеня 1935 г. закончыць складанне гадавых справаздач за 1934 г. у галіне жывёлагадоўлі з тым, каб з гэтых гадавых справаздач маглі быць атрыманы даныя, неабходныя для перапісу (зварот стада, вынікі злучной кампаніі, паказальнікі прадукцыйнасці, зварот кармоў і інш. весткі.

7. Надаючы важнейшае гаспадарча-палітычнае значэнне перапісу жывёлы, абавязаць райвыканкомы, гарадзкія і сельскія советы:

а) разгарнуць неадкладна сярод насельніцтва і ў друку шырокую растлумачальную работу аб значэнні і задачах усесаюзнага перапісу жывёлы;

б) забяспечыць правядзенне падрыхтоўчых мерапрыемстваў да правядзення перапісу, зацвердзіць арганіза-

цыйны план правядзення перапісу, забяспечыць органы наргасуліку да 15 снежня 1934 г. палітычна-праверанымі і тэхнічна-пісьменнымі кадрамі з настаўнікаў студэнтаў ВНУ і тэхнікумаў, агразоатэхнічнага і ветэрынарнага персанала і работнікаў раённага і сельсовецкага апарата, для ўдзелу ў перапісу жывёлы ў якасці абследавальнікаў, рэгістратараў і брыгадзіраў кантрольнай праверкі;

в) вынікі перапісу жывёлы заслухаць на пасяджэнні прэзідыума РВК з пункту гледжання паўнаты, правільнасці правядзення перапісу і прыняцця мерапрыемстваў па развіццю жывёлагадоўлі.

г) на працягу ўсяго часу перапісу забяспечыць работнікаў перапісу сродкамі прасоўвання, як з раённага цэнтра да месца перапісу, так паміж сельсоветамі і перапіснымі ўчсткаамі.

8. Абавязаць райвыканкомы і сельсоветы, пад адказнасць старшынь РВК і сельсоветаў, перад пачаткам перапісу заправесці сходы калгаснікаў і аднаасобнікаў аб мэтах і задачах перапісу, вылучыць у дапамогу кожнаму рэгістратару брыгаду садзейнасці з членаў сельсовета і сельскага актыва і вынікі перапісу абгаварыць на сходах насельніцтва і прэзідыуме сельсовета.

9. Абавязаць дырэктароў соўгасаў МТС, каапгасаў ОРС'аў, леспрамгасаў, старшынь калгасаў і кіраўнікоў іншых дзяржаўных каапeрацыйных і грамадскіх установ, гаспадарак і прадпрыемстваў, жывёла-баз і пунктаў прадубойнага ўтрымання жывёлы вылучыць адказных асоб для атрымання да 25 снежня 1934 г. у належных перапісных участках бланкаў перапісу, неабходнага інструктажу аб парадку запаўнення бланкаў і прадстаўлення запоўненых бланкаў у перапісны ўчастак не пазней 20 студзеня 1935 года.

Папярэдзіць дырэктароў, і кіраўнікоў гаспадарак дзяржаўных, каапeрацыйных і іншых арганізацый і старшынь калгасаў, што яны нясуць персанальную адказнасць за своечасовасць і правільнасць прадстаўляемых даных аб колькасці жывёлы.

10. Абавязаць Кіраўніцтва народна-гаспадарчага ўліку БССР не пазней 1 XII-34 г. устанавіць са складу райінспектароў НГУ і адказных работнікаў свайго апарата раённых кіраўнікоў перапісу і міжраённых інструктароў

11. Устанавіць, што асобы, вінаватыя ва ўтойванні жывёлы ці процідзеянні перапісу прыцягваюцца да крымінальнай адказнасці. Абавязаць органы пракуратуры ўсе справы, якія паступаюць на асоб вінаватых у зрыве перапісу ці ўтойванні жывёлы, прымаць да неадкладнага разгляду.

12. СНК БССР прапануе Кіраўніцтву народна-гаспадарчага ўліку і райвыканкомам устанавіць аператыўнае кіраўніцтва правядзеннем перапісу і папярэджвае супроць недаацэнкі справы дасканалага высвятлення колькаснага і якаснага складу пагалоўя жывёлы ў кожным раёне і сельсовеце аказваючы ўсямерную дапамогу нізавым органам народна-гаспадарчага ўліку ў правядзенні перапісу жывёлы.

13. Кіраўніцтва Народна-гаспадарчага ўліку БССР па сканчэнні перапісу ўстанавіць прыёмку даных перапісу ад кожнага раёна ў паасобку і папярэднія вынікі перапісу далажыць СНК БССР 25 лютага 1935 года.

Нам. старшыні Совета Народных
Камісараў БССР *А. Саак'ян.*

Кіраўнік спраў СНК БССР *Шабалтас.*

---

## Перад усесаюзным перапісам жывёлы.

(Перадавая з „Правды" ад 22 лістапада 1934 г.)

Совет Народных Камісараў СССР вынес пастанову „Аб усесаюзным перапісу жывёлы на 1 студзеня 1935 года", на-днях апублікаваную у „Правде".

Да статыстыкі і учота, складаючых аснову гаспадарчага планіравання, заўсёды неабходны самыя добрасумленныя адносіны. Тым больш гэта трэба падкрэсліць у даным выпадку, маючы на увазе асаблівы характар надыходзячага перапісу жывёлы. **Студзеньскі перапіс жывёлы павінен забяспечыць дзяржаўны план развіцця жывёлагадоўлі точнымі ісходнымі данными.** У гэтым перш за ўсё значэння падыходзячага перапісу, і гэта павінна вызначыць адносіны да яго усіх партыйных і савецкіх работнікаў. Дзяржаўны план развіцця жывёлагадоўлі толькі тады будзе дзейсным і моцным арудзіем, калі ён будзе пакоіцца на абсалютна правільных ісходных данных, узорна-пастаўленым учоце.

Трэба точна устанавіць численнасць пагалоўя. Праграма усесаюзнага перапісу жывёлы прадугледжывае точны учот асобных відаў жывёлы, якая маецца у краіне. Атрыманыя данныя павінны адказаць на пытанне: Колькі у нас коняй, буйнай рагатай жывёлы, авец, коз, свіней, верблюдаў, аслоў і мулаў. Іначай кажучы, з якімі рэсурсамі мы уступаем у 1935 год, у якім павінны быць зроблены новыя, буйныя поспехі у вырашэнні жывёлагадоўчай праблемы. Перапіс усіх відаў жывёлы павінна праводзіцца не толькі у сельскіх мясцовасцях но і ў гарадах, і паселішчах гарадскога тыпу, за выключэнням найбольш аддалёных раёнаў

Крайняй Поўначы. Такі размах учотнай работы мае вялікае значэнне. Справа у тым, што у гарадах і гарадзкіх паселішчах, не гаворачы ужо аб сельскіх мясцовасцях, за апошнія гады значна павялічылася колькасць жывёлы. Паявіліся падсобныя гаспадаркі фабрык, заводаў і устаноў; рабочыя і служачыя маюць жывёлу у асабістым карыстанні. Вельмі часта жывёла, знаходзячаяся у гарадзкіх і прыгарадных гаспадарках, а таксама у асабістым карыстанні рабочых і служачых, ускальзала ад учота і гэта не магло не адбівацца на агульных данных аб становішчы пагалоўя.

Задача партыйных і совецкіх арганізацый састаіць у тым, каб учот ахапіў кожную гаспадарку, каб не было прапускоў, незалежна ад таго, праводзіцца перапіс у горадзе ці вёсцы. Вялікае значэнне будзе мець масавая кантрольная праверка данных перапісу, якая павінна закрануць 10 проц. гаспадарак калгаснікаў і аднасобнікаў.

Надыходзячы усесаюзны перапіс жывёлы—больш цяжкая і складаная справа, чым прайшоўшы чэрвеньскі учот. Трэба не толькі устанавіць численнасць жывёлы, но і правесці учот паводнасці коняй, буйнай рагатай жывёлы, авец, свіней ва всіх гаспадарках. А ў дзржаўных, каператыўных грамадскіх арганізацыях і ў калгасах (па абагуленаму стаду) трэба правесці і учот прадукцыйнасці жывёлы. Вызначэнне якаснага складу стада з'яўляецца тым новым, што рэзка адрозніває надыходзячы перапіс жывёлы ад усіх ранейшых. Гэта работа мае вялізарнейшае значэнне. Атрыманыя данныя пакажуць на слабыя месцы у жывёлагадоўлі, дапамогуць точна планіраваць племянную справу і падняць культуру социялістычнай жывёлагадоўлі. Учот жывёлагадоўлі па такім паказчыкам і ў такім масштабе праводзіцца упершую. Вось чаму мы падкрэсліваем важнасць культурнай арганізацыі перапісу і учотных работ.

Само сабой зразумела, што неписьменныя, некваліфікаваныя людзі не справяцца з гэтай справай. Ясна і тое, што паміма агульнай культурнасці работнікі, якім даручаецца перапіс і учот, павінны яшчэ ўладаць добрай палітычнай падрыхтоўкай і быць палітычна праверанымі. Мясцовыя арганізацыі павінны раз на заўсёды уявіць, што народнагаспадарчы учот—гэта не канцэлярская работа, а вялікая палітычная справа. Калі гэта так, то трэба прыняць усе меры, каб органы народна-гаспадарчага учота, праводзячыя перапіс, былі забяспечаны палітычна праверанымі і тэхнічна-падрыхтаванымі работнікамі. Кожны партыйны камітэт абавязан самым уважлівым чынам азнаёміцца з кадрамі статыстыкаў, не дапусціць к рабоце класава-чуждых і не праверапых асоб, своечасова прыйсці на дапамогу

органам цэнтральнага кіраўніцтва народна-гаспадарчага учота.

Асаблівае месца у надыходзячай рабоце павінны заняць сельская інтэлегенцыя, студэнцтва, работніка совецкага апарата. Настаўнікі, аграномы, зоатэхнікі, ветырынарныя врачы, студэнты вузаў і тэхнікумаў, асабліва сельска-гаспадарчых, служачыя областных і раённых выканкомаў — вось кадры, якія абавязкова павінны быць працягнуты да перапісу. Партыйныя арганізацыі павінны зрабіць усе для таго, каб гэта катагорыя работнікаў прыняла самы актыўны удзел у перапісу і учоце жывёлы.

Паміма выяўлення чысленнасці жывёлы і якасных паказчыкаў пагалоўя, прадставіць яшчэ выявіць становішча жывёлагадоўчых гаспадарак. Трэба узнаць, як забяспечаны жывёлагадоўчыя совгасы, калгасныя таварныя фермы, буйныя жывёлагадоучыя гаспадаркі аддзелаў рабочага снабжэння пабудовамі, сілоснымі і кормаперарабляючымі устаноўкамі, інкубатарамі. неабходна улічыць забспечаннасць кармамі і уласнай кармавой базай. Выявіць якія кадры і якіх спецыяльнасцей заняты на вытворчасці. Нарэшце, неабходна улічыць асноўныя паказчыкі арганізацыі працы (прэміяльна-здзельная аплата, склад брыгад, цякучасць і інш.). Словам, прадставіць агромная работа, якая дазволіць точна выявіць становішча матэрыяльнай базы і арганізацыі працы у соцыялістычнай жывёлагадоўлі.

Такім чынам, праграма усесаюзнага перапісу жывёлы складаецца з трох асноўных момантаў: учот чысленнасці пагалоўя, учот якасных паказчыкаў стада (пароднасць і прадукцынасць) і учот данных аб становішчы жквёлагадоўчкх гаспадарак. Нецяжка бачыць, што па сутнасці рэч ідзе аб глубокай праверцы усёй жывёлагадоўлі краіны, якая дазволіла-бы, па-першае, точна ведаць гаспадарку ва ўсіх яе раздзелах і па-другое правільна яе планіраваць.

Неадкладна трэба разгарнуць падрыхтоўку перапісу. Рыхтаваць трэба не толькі учотныя бланкі, не толькі падбіраць і інструктаваць статыстыкаў. Кожны калгаснік, усё працовнае насельніцтва павінна ведаць аб надыходзячым перапісу і разумець яго значэнне. Масавая растлумачальная работа павінна увесь час суправаждаць кампанію. Трэба дабіцца, каб ні адна галава жывёлы не была укрыта ад перапісу, трэба растлумачыць, што асобы' вінаватыя вн утайцы жывёлы, альбо у супроцьдзеянні перапісу, прыцягваюцца да крымінальнай адказнасці па усёй суровасці закона.

Чэрвеньскі учот жывёлы дазволіў падвесці першыя ітогі вялікай работы, якую разгарнулі калгаснікі пад кіраўні-

цтвам партыі. 1934 год прынёс бясспрэчны зрух у рабоце пагалоўя жывёлы. У гэтым годзе мы дабіліся не толькі спынення адыходу стада, но і прыроста пагалоўя. Прырост бужнай рагатай жывёл у параўнанні з мінулым годам складу 10, 4 проц. Калі у 1933 годзе прырост папалоўя свіней равняўся 3' 9 проц., то у 1934 годзе пагалўе свіней вырасла па Саюзу на 43, 9 проц, Ёсць рост, хаця і незначны пакуль, стада авец: на 3, 4 проц. супроць мінулага года. Толькі па коням яшчэ працягваецца зніжэнне пагалоўя, хаця яно на многа менш мінулых гадоў.

Студзеньскі перапіс жывёлы паслужыць праверкай таго, як захован маладняк. як арганізавана зімоўка жывёлы і замацаваны тыя першыя, праўда, вельмі яшчэ незначныя посцехі, якія мы дабіліся у развіцці жывёлагадоўлі за 1934 год. Усесаюзны перапіс жывёлы—агляд нашай жывёлагадоўлі' і да яго неабходна падрыхтавацца. 1935 год павінен стаць годам разгорнутага наступлення на жывёлагадоўчым фронце.

---

# Пастанова № 2565

## Совета Народных Камісараў Саюза ССР.

Масква, Крэмль 15 Лістапада 1934 г.

**Аб мерапрыемствах па правядзенню перапісу жывёлы на 1/I 1935 г.**

Совет Народных Камісараў Саюза ССР пастанаўляе:

1. Прапанаваць Наркамфіну СССР забяспечыць бесперабойнае фінансаванне мерапрыемств па падрыхтоўцы і правядзенне перапісу жывелы у снежні 1934 г. і студзені 1935 г. у межах зацверджанага СНК СССР каштарысу.

2. Абавязаць НКЗемляробства СССР скончыць не пазней 25 снежня 1934 г. работу па інвентарызацыі усяго абагуленага стада калгасаў з вызначэннем яго пароднага складу і работу па агляду жывелы, належачай калгаснікам і аднаасобнікам, у мэтах выяўлення пароднай жывёлы.

3. Абавязать ЦУНХУ прадставіць у СНК СССР да 1-га красавіка 1935 г. папярэднія вынікі перапісу жывёлы.

Старшыня Савета Народных
Камісараў Саюза ССР *В. Молатаў*
Нам. Кіраўніка спраў Савета Народных
Камісараў СССР *І. Межлаук.*

# Пастанова № 1962

## Совета Народных Камісараў БССР

**3 снежня 1934 г.** **гор. Менск.**

**Аб кадрах па правядзенню перапісу жывёлы.**

Для практычнага ажыццяўлення пастановы СНК СССР ад 15-га лістапада 1934 г. „Аб Усесаюзным перапісу жывёлы на 1 студзеня 1935 г.", Совет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Прапанаваць Народнаму Камісарыяту Асветы БССР даць паказанні раённым аддзелам асветы аб аслабаненні ад працы ў школах прыцягваемых да перапісу, настаўнікаў тэрмінам з 20 снежня 1934 г. па 20 студзеня 1935 г.

2. Мабілізаваць 10 работнікаў наступных цэнтральных устаноў: НКЗемляробства—2 чал., Акадэмія Навук БССР—4 чал. (па навукова-даследч. інстытутам), Уп. НК Леспрома—1 чал., НК Фінансаў—1 чал., НК Мясцовай прамысловасці—1 чал., Навукова-Даследчы інстытут с.г.—1 чал. для скарыстання іх у якасці раённых кіраўнікоў перапісу жывёлы.

3. Усіх студэнтаў Інстытута народнай гаспадаркі, камандыруемых з 10 снежня на практыку ў райпланы, выкарыстаць у якасці абследавацелей жывёлы ў соўгасах, а 10 чал. з іх у якасці раённых кіраўнікоў перапісу жывёлы.

Старшыня Совета Народных
Камісараў БССР *М. Галадзед.*

Кіраўнік Спраў Совета Народных
Камісараў БССР *С. Шабилтас.*

# Загад

## Па Кіраўніцтву Наргасучота БССР

**ад 10/XII-1934 года.**

1. Зацвердзіць наступны склад адказных кіраўнікоў перапісу жывёлы па раёнах:

| Раёны | Райкіраўнікамі | Нам. Кіраўнікоў |
|---|---|---|
| 1. Асвейскі | Васілеўская | Ленчыкаў (УНХУ) |
| 2. Асіповіцкі | Аксельрод | Рэкіш (УНХУ) |
| 3. Бабруйскі | Леўковіч | — |
| 4. Барысаўскі | Кулікаў | Старновіч (УНХУ) |
| 5. Бегомельскі | Станкевіч (НКЗ) | — |
| 6 Брагін | Белахвосцік | — |
| 7. Быхаўскі | Старавойтаў | Щылёнак (студ. ІНГ) |
| 8. Бялыніцкі | Каган | Богамазаў (НкЗ) |
| 9. Бярэзенскі | Асіповіч | Перэдня (УНХУ) |
| 10. Б. Кашалеўскі | Гаўрош | Прокудовіч (ст. ІНГ) |
| 11. Бешанковіцкі | Кулакоўскі | — |
| 12. Віцебскі | Шметар | — |
| 13. Ушацкі | Сіваграк | Найфельц (АНБел) |
| 14. Веткаўскі | Фінаеў | Буйко (УНХУ) |
| 15. Глускі | Дамброўскі | Ельніцкі (УНХУ) |
| 16. Горецкі | Аніхоўскі | — |
| 17. Гарадоцкі | Аўдзей | Іваноў (УНХУ) |
| 18. Гомельскі | Флеер | Томберг (УНХУ) |
| 19 Дзяржынскі | Міронава | Казлова (УНХУ) |
| 20. Дрысенскі | Чыжэўскі | Раманоскі (УНХУ) |
| 21. Дубровенскі | Жукоў | — |
| 22. Ельскі | Стражнікевіч | — |
| 23. Жыткавіцкі | Лойко | — |
| 24. Жлобінскі | Крышнеў | Белаусаў (Ін-т С-Г) |
| 25. Заслаўльскі | Шэўчук | — |
| 26. Касцюковіцкі | Лу аўцоў | — |
| 27. Камарынскі | Позняк (АНБел) | Андрыявец (УНХУ) |
| 28. Крупскі | Якуцік | Чырьеў (УНХУ) |
| 29. Клімавіцкі | Давыдаў | Фабрыкант (ст. ІНГ) |
| 30. Клічаўскі | Ладуцько | Страх (ст. ІНГ) |
| 31. Крычаўскі | Лукашук | — |
| 32. Кармянскі | Міхасёў (УНХУ) | Караткевіч (УНХУ) |
| 33. Краснаполькі | Лемеш | Карачун (УНХУ) |
| 34. Копыльскі | Барысаў | — |
| 35. Лепельскі | Бушанава | — |
| 36. Любанскі | Хвашчэўскі | — |
| 37. Лоеўскі | Бацяноўскі | Кацэўман (УНХУ) |
| 38. Лагойскі | Абражэвіч | — |
| 39. Лельчыцкі | Грыцкевіч | — |
| 40. Лёзненскі | Коукаў | — |
| 41. Менскі (раён) | Малы | — |
| 42. Менск (горад) | Дышлевіч | — |
| 43. Мазырскі | Чайкоўскі | Пілаг (ст. ІНГ) |

| Раён | Пайкіраўнікамі | Нам. Кіраўнікоў |
| --- | --- | --- |
| 44. Мацiслаўльскi . . | Белоў | Карсунскі (ст. ІНГ) |
| 45. Магілёускі . . . | Зумент | — |
| 46. Нараўлянскі . . | Сцепанаў | Лішэўскі (УНХУ) |
| 47. Оршанскі . . . | Сомін | — |
| 48. Пропойскі . . . | Высоцкі | Свердлоў (УНХУ) |
| 49. Парыцкі . . . | Кагачэўскі | — |
| 50 Полацкі . . | Мізараў | — |
| 51. Пухавіцкі . . . | Грыб | — |
| 52. Плешчаніцкі . . | Каральчук (УНХУ) | — |
| 53. Петрыкаўскі . . | Эфрон (Нкместпром) | — |
| 54. Рагачоўскі . . . | Пташкоўскі | Кветны (НКЛес) |
| 55. Расонскі . . . | Цэйтлін | Савіцкі (ст. ІНГ) |
| 56. Рэчыцкі . . . | Бялугін | — |
| 57. Сіроцінскі . . . | Садоўскі | — |
| 58. Смолявіцкі . . . | Верацінскі | — |
| 59. Суражскі . . . | Фельдман | Іофэ (УНХУ) |
| 60. Ст. Дарожскі . . | Львовіч | — |
| 61. Старобінскі . . | Цімончык | Лапіцкі (ст. ІНГ) |
| 62. Слуцкі . . . | Фішкінд | Казырыва (ст. ІНГ) |
| 63 Талочынскі. . . | Чурко (УНХУ) | — |
| 64. Сенненскі . . . | Камараў | Арашкевіч (УНХУ) |
| 65. Тураўскі . . . | Сырамаха | — |
| 66. Уваравіцкі . . . | Лапін | Бондараў (УНХУ) |
| 67. Уздзенскі . . . | Бацяноўскі (НКФ) | — |
| 68. Хойніцкі . . . | Аўчыннікаў | — |
| 69. Чэрыкаўскі. . . | Бернацкі | — |
| 70. Чаускі . . . | Мільшын | — |
| 71. Чэрвенскі . . . | Бабіцкі | — |
| 72. Чэчэрскі . . . | Гарбачоў | — |
| 73. Ч. Слабоцкі . . | Лукашэвіч | — |
| 74. Чашніцкі . . . | Ракецкі | — |
| 75. Шклоўскі . . . | Саўчэнко | Новікаў (ст. ІНГ) |
| 76. Церахоўскі . . . | Шустаў | — |

II. Камандыраваць часова у дапамогу інспектурам для правядзення падрыхтоўчай работы і інструктажа перапісанага перасанала: т. Смарадзінскую—Віцебск, т. Фарбер і Акуліч—Магілёў і т. Велпава—Рэчыца.

III. Абвінаваціць усіх камандыруемых у раёны работнікаў з апарата УНХУ, ведамств і студэнтаў ІНГБел выехаць у прызначаныя раёны не пазней 12 снежня 1934 г.

IV. Забараніць раённым кіраўнікам перапіса жывёлы і асобам, якія камандыруюцца у раёны адлучацца з раёна без майго дазвола.

V. У належнасці з пастановай СНК БССР ад 3 снежня 1934 г. скарыстаць у якасці абследавацелей буйных жывёлагадоўчых гаспадарак у перыяд часу з 1-га па 20-га

студзення 1934 г. ніжэй пералічаных студэнтаў Інстытута народнай гаспадаркі, якія едуць на практыку у райпланы:

1. Фангаус—Гомельскі
2. Зінеўскі—Расонскі
3. Паджары—Магілёўскі
4. Касцянок—Талочынскі
5. Хаценчык—Глускі
6. Аўраменко—Крупскі
7. Дзер ачоў—Плешчаніцкі
8. Вашкевіч—Лагойскі
9. Гозман—Барысаўскі
10. Нікулевіч—Брагінскі
11. Гурэвіч—Віцебскі
12. Рудэрман—Шклоўскі
13. Людчык—Бешанковіцкі
14. Мальцав—Клімавіцкі
15. Малюковіч—Дзержскі
16. Чурак—Ст. Дарожынскі
17. Пінскі—Камарынскі
18. Цішковіч—Рагачоўскі
19. Біруля—Церэхаўскі
20. Штэйн—Барысаўскі
21. Кацнельсон—П.—Рэчыцкі
22. Тараўцоў—Оршанскі
23. Грамовіч—Краснапольскі

VI. Зацвердзіць міжраеннымі упаўнаважанымі па перапісу жывёлы наступных адказных работнікаў УНХУ БССР:

1. Полацкі куст—т. Мохарт
2. Менскі „ —т. Голант
3. Бабруйскі „ —т. Канцельсон
4. Крычэускі „ —т. Каштанаў
5. Слуцкі „ —т. Шыдлер
6. Мозырскі куст—т. Петрушэня
7. Магілёўскі „ —т. Гоўзман
8. Оршанскі „ —т. Магідаў
9. Гомельскі „ —т. Мізевіч

Начальнік Кіраўніцтва Наргасучота БССР *Владзімірскі.*

---

# Загад № 1362

## Па Народнаму Камісарыяту Асветы БССР

**Менск 8-XII 1934 г.**

Для практычнага ажыццяўлення пастановы СНК СССР ад 15/XI-1934 г. „Аб усесаюзным перапісу жывёлы“ і пастановы СНК БССР ад 3/XII-1934 г. „Аб кадрах па правядзенню перапісу жывёлы“, улічваючы велізарнае палітычна-гаспадарчае значэнне Усесаюзнага перапісу жывёлы, з а г а д в а ю:

1. *Усім* школам, ВНУ, тэхнікумам РДСК, хатам-чытальням і інш. культасветным установам правесці шырокую растлумачальную работу сярод насельніцтва аб значэнні Усесаюзнага перапісу жывёлы.

2. Улічваючы неабходнасць аказання дапамогі статыстычным органам у правядзенні перапісу, абавязваю загадчыкаў райАНА па узгадненню з раённым інспектарам Наргасучота выдзеліць па раёну неабходную колькасць рэгістратараў за кошт настаўніцтва, але з такім разлікам, каб колькасць настаўнікаў-рэгістратараў не перавышала 50 проц. патрэбнай колькасці рэгістратараў па раёну.

Падабраць рэгістратараў з палітычна праверавых і падрыхтаваных настаўнікаў, галоўным чынам з непоўных сярэдніх школ 3-х і 4-х камплектных пачатковых школ, з такім разлікам, каб аслабаненне іх на час перапісу ад работы у школе, не адбілася на школьных занятках у парадку замены гэтых настаўнікаў на аснове сумяшчальнасці.

3. Работу па выдзяленню настаўнікаў для гэтай мэты скончыць не пазней 18-га снежня. Аслабаніць іх ад работы у школе на час з 20/XII-1934 г. па 20/I-1935 г. з захаваннем пэнсіі.

Народны Камісар Асветы БССР *Чаркушэвіч.*

---

# Загад № 1287

## Па Народнаму Камісарыяту Земляробства БССР

**ад 3-га снежня 1934 г.**

**„Аб правядзенні падрыхтоўчай работы па перапісу жывёлы**

У выкананне пастаноў СНК СССР ад 15/XI-34 г. („Правда" ад 18/XI 1934 г.) і СНК БССР ад 23/XI № 1914. загадваю:

1. Дырэктарам Садгародтрэста, Насентрэста і Лугтрэста дырэктарам соўгасаў і навукова-даследчых устаноў і станцый, загадчыкам Райза і старшыням калгасаў да 15/XI 34 г. поўнасцю закончыць інвентарызацыю усяго пагалоўя жывёлы (кней буйнай раг. жывёлы, свіней, авечак), па усім соўгасам і калгасам у адпаведнасці з дасланнымі бланкамі па інвентарызацыі у Райзо, з абавязковым вызначэннем пароднасці жывёлы на падставе данных Райза і соўгасаў па учоту племжывёлы.

2. Заг. Райза к 15 снежня скончыць запіс выяўленай племяной і пароднай высокапрадукцыйнай жывёлы, належачай усім соўгасам (усіх сістэм) калгасам, калгаснікам і аднаасобнікам у раёныя племкнігі, выдаўшы уласнікам гэтай жывёлы племпасведчанні. Адначасова аформіўшы устаноўленную справаздачнасць і запісы па формам, прадугледжаным інструкцыямі па запісу жывёлы у РПК і ГПК.

3. Заг. Райзо і дырэктарам соўгасаў і старшыням калгасаў да 1-га студзеня 1935 г. у кожным калгасе і соўгасе прывесці у поўны парадак учот і вытворчыя запісы па жывёлагадоўлі, як-та: паказчыкі прадукцыйнасці стада

(удой, прывес, пастрыг шэрсці і. т. д.); зварот стада (прыход і расход па ўзросным групам за год), дасканала устанавіць узрост мала дняка кожнага віда жывёлы, вынікі злучной кампаніі (ялавасць і аборт), кармавая база гаспадаркі—пасеў кармавых культур, сенажаці, выпасы і т. д.), забяспечаннасць жывёелы кармамі (баланс кармоў), жывёлагдоўчымі будынкамі і ўстаноўкамі (сілоснымі і кармаапрацоўчымі установкамі, інкубатарамі і т. д.), учот асноўных паказчыкаў арганізацыі працы (прэміяльная здзельшчына, аплата брыгады, цякучасць), а таксама забяспечнасць гаспадарак кадрамі розных спецыяльнасцей (зоотэхнікамі, ветэрынарамі, даяркамі, свінаркамі, аўчарамі і т. .д.).

На падставе гэтых даных дырэктарам соўгасаў не пазней 15-га студзеня 1935 г. скончыць складанне гадавых справаздач па жывелагадоўлі за 1934 г. Увесь справаздачным матар'ял сканцэнтраваць у рахункаводаў калгасаў і ст. бухгалтароў соўгасаў. Для аказання дапамогі калгасам інструктажа мабілізаваць усіх рахунковых работнікаў раёна і сельсоветаў, агразоаветперсанал Райзо, МТС і соўгасаў, настаўнікаў, студэнтаў і т. д.

4. Заг. Райзо на працягу дэкады прывесці у парадак рэестр калгасных жывёлагадоўчых таварных ферм у адпаведнасі з пастановай НКЗ ад 10/VII-34 г № 253 і кожнаму калгасу да 1-га студзеня 1935 г. выдаць пасведчанні аб рэгістрацыі форм па прыкладаемай форме.

5. У дадатак да пастановы НКЗБ ад 10 VII устанавіць наступны парадак арганізацыі і рэгістрацыі КТФ:

а) Пры наяўнасці у калгасе незначнай колькасці стада розных відаў жывёлы арганізуецца адна змешаная ферма (б. р. жывёлы свіней авечак), прычым па меры павялічэння стада, у змешаных фермах з іх выдзеляюцца асобныя віды жывёлы у самастойныя спецыяльныя фермы;

б) фермы у калгасе арганізоўваюцца па пастанове праўленяя калгаса, зацверджанай агульным сходам калгаснікаў;

в) усе існуючыя, а таксама і уноў арганізаваныя ЖКТФ падлягаюць абавязковай рэгістрацыі у Райза; адначасова з рэгістрацыяй зацверджаюцца загадчыкі ферм і увесь склад жывёлагадоўчых брыгад не менш чым на 2 гады, прызначаныя праўленнем калгаса.

6. Райза і дырэктарам трэстаў зараз-жа разгарнуць растлумачанную працу сярод калгаснікаў, рабочых соўгасаў і працоўных аднаасобнікаў аб значэнні і задачах Усесаюзнага перапісу жывёлы і аб абавязковым дзяржаўным плане па жывёлагадоўлі.

7. На час перапісу жывёлы мабілізаваць у дапамогу

райінспектарам Наргасучота палітычна праверавых і тэхнічна падрыхтаваных работнікаў, інспектароў па учоту, заатэхнікаў, аграномаў, ветэрынараў студэнтаў і т. д. правесці інструкцыйныя нарады з мабілізаванымі з тым, каб ніводнага пытання сярод работнікаў у час працы не засталось незразумелым.

8. Папярэджываю загадчыкаў Райза і дырэктароў трэсту што за несваечасовы і недобраякасны учот племжывёлы, за неправядзенне інвентарызацыі і за непадрыхтоўку гадавых справаздач па жывёлагадоўлі, якія могуць затрымліваць і тармазіць работу па перапісу жывёлы па становішчу на 1/I-1935 г.—буду прыцягваць да стражайшай адказнасці.

Нам. Наркома Земляробства БССР *Стрэле.*

Дадатак да Загада НКЗБ

# ПАСВЕДЧАННЕ.

Выдана С/Г арцелі / комуне ________ (назва) ________ с/совета у тым, што ________ калгаса ________ 193 г. зарэгістрыраваны у Райза (чысло м-ц) пад № ________ ________ таварныя фермы з агульным пагалоўем (від фермы) жывёлы на момант рэгістрацыі ________ (назва жывёлы у ________ колькасці галоў).

у тым ліку матак ________ галоў (кароў, свінаматак, аўцаматак)

(пячатка).

Заг. ________ Райза

---

## Усім Горрайздравам і Дырэктарам інстытутаў.

Пастановай Бюро ЦК КП(б)Б прапанована ГК і РК КП(б)Б палітаддзелам МТС і саўгасаў разгарнуць шырокую масава-растлумачальную работу сярод насельніцтва

аб задачах і значэнні, якое мае Усесаюзная перапіс жывёлы на 1-е студзеня 1935 г. і аб адказнасці за скрыццё жывёлы, дачу неправельных вестак аб жывёле і супроцьдзейнічанні перапісу.

Вам неабходна зараз-жа правесці растлумачальную работу аб значэнні перапісу, удзеле ў гэтым перапісу і папулярызацыі яго медработнікамі,—завастрыўшы асабліва ўвагу на барацьбу з фактамі ўтайкі жывёлы ад перапісу.

Забяспечце паспяховае правядзенне перапісу і належны ахоп ёю прыбальнічных гаспадарак.

НКАЗ папярэджвае, што за невыкананне гэтай дырэктывы, вінаватые будуць прыцягнуты да суровай адказнасьці.

Народны Камісар
Аховы Здароўя БССР *Сурта.*

Начальнік Прафілактычнага
Кіраўніцтва НКАЗ *Немірскі.*

5 снежня 1934 г.

---

## Указанні і дадаткі да оргплана перапісу жывёлы на 1 студзеня 1935 г.

### I. Пералік матар'ялаў, накіраваных 8-12 снежня бюро перапісу жывёлы райінспектурам Наргасучота.

1. Пастанова СНК БССР ад 3/XII, аб мабілізацыі настаўнікаў для удзелу у перапісу жывёлы, і проект пастановы РВК (Горсавету), 2) Загад НКЗему аб удзеле у перапісу жывёлы Райзо, 3) спіс гарадзкіх паселішч, 4) прыкладная умова (догавар) райінспектуры з рэгістратарамі, 5) спіс кропак для кантрольных абходаў (тым раёнам, якія не атрымалі будучы на нарадзе), 6) памятка раённага інспектара Наргасучота, 7) 13 снежня адпраўлена апошнія партыі інструкцый і бланкаў ф. №№ 1-15 уключна. Формы 16-18 будуць высланы 14 снежня, 8) Лік перапісаных участкаў, кадры перапісу жывёлы па кажнаму р-ну і арыентыровачная аплата розлічных катэгорый перапісанага персонала.

### II. Дадаткі да Оргплана перапісу жывёлы

## 1. СПІС

Гарадоў і гарадскіх паселішч па Ўсесаюзнаму перапісу жывёлы.

| Назва гарадоў і гарпаселішч | Назва раёна. |
|---|---|
| **Гарады** | |
| 1. Менск | — |
| 2. Бабруйск | — |
| 3. Барысаў | — |
| 4. Стары Быхаў | — |
| 5. Ветка | — |
| 6. Віцебск | — |
| 7. Гомель | — |
| 8. Горкі | — |
| 9. Гарадок | — |
| 10. Дзяржынск | — |
| 11. Добруш | Гомельскага раёна |
| 12. Дуброўна | — |
| 13. Жлобін | — |
| 14. Калінкавічы | Мазырскага раёна |
| 15. Клімавічы | — |
| 16. Крычаў | — |
| 17. Лепель | — |
| 18. Магілеў | — |

| Назва гаралоў і гарпаселішч. | Назва раёна |
|---|---|
| 19. Мазыр | — |
| 20. Мсціслаўль | — |
| 21. Орша | — |
| 22. Асіпавічы | — |
| 23. Петрыкаў | — |
| 24. Полацк | — |
| 25. Рэчыца | — |
| 26. Рагачоў | — |
| 27. Сенно | — |
| 28. Слуцк | — |
| 29. Чаусы | — |
| 30. Чэрвень | — |
| 31. Чэрыкаў | — |
| 32. Шклоў | — |
| **Мястэчкі** | |
| 1. Бярэзіна | — |
| 2. Бешанковічы | — |
| 3. Брагін | — |
| 4. Глуск | — |
| 5. Дрыса | — |
| 6. Зембін | Барысаўскага раёна |
| 7. Копысь | Аршанскага раёна |
| 8. Карма | — |
| 9. Касцюковічы | — |
| 10. Краснаполле | — |
| 11. Крупкі | — |
| 12. Лиозна | — |
| 13. Нароўля | — |
| 14. Агароднля Гомельская | Церахоўскага раёна |
| 15. Парычы | — |
| 16. Плешчаніцы | — |
| 17. Падабранка | Церахоўскага раёна |
| 18. Смілавічы | Пухавіцкага раёна |
| 19. Старыя-Дарогі | — |
| 20. Талочын | — |
| 21. Узда | — |
| 22, Улла | Бешанковіцкага раёна |
| 23. Ушачы | — |
| 24. Хоцімск | Касцюковіцага раёна |
| 25. Чашнікі | — |
| 26. Яновічы | Суражскага раёна |
| 27. Сураж | |
| **Паселішча гарад. тыпу** | |
| 1. Багушэўскае | Аршанскага раёна |
| 2 Ветрынка | Быхаўскага раёна |
| 3. Высочаны | Лезьнянскага раёна |
| 4. Глуша | Бабруйскага раёна |
| 5. Городзянка | Асіпавіцкага раёна |
| 6. Капцэвічы | Рэчыцкага раёна |

| Назва гарадоў і гарпаселішч. | Назва раёнаў |
| --- | --- |
| 7. Касцюкоўка . . | Гомельскага раёна |
| 8. Чырв. Кастрычнік (Барань) . . | Аршанскага раёна |
| 9. Чырв. Кастрычнік (Елізава) . . | Асіпавіцкага раёна |
| 10. Ноўкі . . . | Суражскага раёна |
| 11. Арэхі-Выдрыца . | Аршанскага раёна |
| 12 Пасталы . . | Жыткавіцкага раёна |
| 13. Пціч . . . | Петрыкаўскага раёна |
| 14 Слаўное . . | Талачынскага раёна |
| 15. Якаўлевічы . . | Аршанскага раёна |
| 16. Ясень . . . | Асіпавіцкага раёна |

2. У адносінах парадка перапісу жывёлы, індывідуальнага карыстання, у гарадох і гарадзкіх паселішчах (згодна спіска) Бюро перапісу КНГУ БССР растлумачвае: (глядзі апошні абзац 5 пункта оргплана, стр. 8:

а) Гаспадаркі калгаснікаў **запісаваюцца** у па гаспадарчы спіс (ф. № 3-а) незалежна ад таго, маюць яны жывёлу ці не.

б) Гаспадаркі аднаасобнікаў, як абкладзеныя, гэтак і падлягаючыя абкладанню сельска-гаспадарчым падаткам, **таксама запісваюцца** у гаспадарчы спіс (ф. № 3-б) у незалежнасці, маюць яны жывёлу ці не.

в) Гаспадаркі рабочых, служачых, саматужнікаў і інш. запісваюцца у пагаспадарчы спіс, (ф. № 3-в) толькі тыя, якія маюць жывёлу. Гаспадаркі гэтай катэгоры! не маючыя жывёлы у гаспадарчы спіс незаносяцца.

3. Да буйных жывёлагадоўчых калгасаў перапіс жывёлы у якіх павінен вытварацца абследавацелямі адносяцца калгасы, якія адказваюць наступнаму цэнзу, выходзячы з пагалоўя усіх узростаў: авечак больш 100 голоў, альбо свіней больш—150 галоў, ці буйнай рагатай жывёлы больш—200 галоў.

Спіс калгасаў падыходзячых пад устаноўлены цэнз, з указаннем па гэтым калгасам жывёлы адпавядаючай цэнзу, раёныя інспектуры павінны прадставіць Бюро перапісу КНГУ БССР не пазней 20 снежня 1934 г. Раёны не прадставіўшыя у тэрміны спісы, будуць лічыцца як не маючыя цэнзавых калгасаў, што Бюро перапісу будзе улічана пры вызначенні сродкаў на перапіс жывёлы па Вашаму раёну.

## III. Орыентыровачны парадак інструктажа перапіснога персанала у раёнах.

Інструктаж усіх удзельнікаў у перапісу жывёлы праводзіцца з 20-28 снежня на працягу 2-3 дзен:

Першы дзень—інструкцыіруюцца рэгістратары, ст. рэгістратары і участковыя інспектары. Інструктаж праводзіцца па ф. ф. 3-а 3-б 3-в (па гаспадарчы спіс на калгаснікаў аднаасобнікаў, рабочых, служачых і іншых) і па ф. ф. №№ 8, 9, 10, (індв. картка на пародзістага жарабца, пародзістую кабылу і на быка ст. 1 1/2 год). Пры гэтым, асаблівая увага павінна быць звернута на абавязковасць агляда рэгістратарамі жывёлы у натуры і на правільнае аднясенне гаспадарак к той ці іншай соцыяльнай катэгорыі.

У гэты-ж дзень праводзіцца у райцэнтры ці бліжэйшым паселішчы опытнае запаўненне спісаў ф. №№ 3 а 3 б 3-в і ф. №№ 8, 9, 10—на 15—20 гаспадарак сурова эканомячы бланкі (усе удзельнікі разбіваюцца на групы па 5-10 чалавек, на кожную групу. Кожнай групе выдаецца не больш аднаго ліста кожнай формы, з тым каб кожны удзельнік запоўніў спіс на 1-2 гаспадаркі (маючы на увазе, што запаса ф. № 3 у УНХУ БССР не маецца). Разбор опытнай работы праводзіцца зараз-жа па яе сканчэнню.

Другі дзень—інструкцыруюцца ст. рэгістратары, участковыя інспэктары і абследвацелі па ф. №№ 1 і 2 (пагаспадарчая картка на саўгас і калгас), № 5 (акт праверкі жывёлы у гаспадарках соцсэктара). ф. № 7-а, 7-б, 7-в, 7-г (бланк абследавання калгасных таварных ферм), ф. № 10, 11, 12, 13, 14 (індывідуальная картка на пародзістую жывёлу), а таксама па ф. № 16 (сельсавецкія ітогі)

Трэці дзень—(калі гэта пратрабуецца)—інструкцыруюцца абследавацелі і участковыя інспэктары па ф. № 6-б 6-в 6-г (бланк абследавання цэнзавага саўгаса, коопгаса і ОРС'а).

К канцу інструктажа рэгістратарам і ст. рэгістратарам павінны быць уручаны пад распіску: а) рэгістратарам-спіскі населеных пунктаў па іх участкам, пагаспадарчыя спісы ф. № 3, індывідуальныя карткі ф. № 8, 9, 10 і неабходныя канцпрылады (папкі, алоўкі і інш.); б) ст. рэгістратарам—(акрамя указанага вышэй для рэгістратараў) уручаюцца таксама спісы калгасаў і іншых гаспадарак дзяржкаапэрацыйнага сэктара па іх сельсаветам, спісы цэнзавых гаспадарак дзяржкоопсэктара (для ведама, як не падляжачыя перапісу ст. рэгістратарамі) і ф. № 16 (сельсавецкія ітогі); в) абследавацелем—ф. № 5 (акт праверкі), у колькасці адпаведаючай колькасці аб'ектаў і спісы аб'ектаў якія падлягаюць

абследаванню; г) участковым інспектарам—усе формы па гаспадаркам дзяржкоопэратыўнага сэктара і каляндарны план уручэння іх участковымі інспектарамі прадстаўнікам належных гаспадарак згодна парадка устаноўленага Оргпланам перапісу жывёлы (гл. п. 13 Оргплана).

Раёнаму інспектару НГУ необходна забяспечыць у першы-ж дзень інструктажа (калі на інструктажы прысутнічае увесь перапісны персонал) выступленні кіруючых работнікаў раёна (старшыні РВК, сакратара РК КП(б)Б).

Па сканчэнню інструктажа перапіснога персанала, у перыяд 25—28 снежня г. г. павінны быць праінструктаваны брыгадзіры кантрольнай праверкі па ф № 4; к канцу інструктажа кожнаму брыгадзіру уручаюцца спісы населёных пунктаў, якія уваходзяць у іх кантрольныя кропкі і бланкі ф. № 4 у належнай колькасці і зводкі ітогаў кантрольнай праверкі ф. № 19.

Участковыя інспектары па пытанням арганізацыі і правядзення кантрольнай праверкі інструкціруюцца асобна, але не пазднеи 24 снежня, з тым каб 25 снежня ўсе участковыя інспектары былі—б у цэнтры сваіх участкаў і забяспечылі своечасовае снабжэнне бланкамі і інструкцыямі гаспадаркі дзяржкоопэратыўнага сэктара.

Раёныя інспектары НГУ і упаўнаважаныя павінны не пазней 18-га снежня паведаміць Бюро Перапісу аб дні правядзення інструкцыйнай нарады перапіснога персанала ў раёне.

Для абслугавання раёнаў пры Бюро Перапісу устанаўліваюцца дзежурства з 9 гадзін раніцы да 12 гадз. вечара, (Дежурны тэлефон № 25-029), акрамя таго можна званіць Зам. Нач, УНХУ БССР т. Голанту па тэлефонах: службоваму № 21-154, і хатняму—24-886.

Зам. Нач. Наргасучота БССР *Голант.*

Нач. Бюро Перапісу Жывёлы УНХУ БССР *Арцёмкоў.*

---

# Памятка

## Раённаму інспектару па правядзенню перапісу жывелы.

1. Да 15/XII а) падабраць для ўсіх перапісных участкаў рэгістратараў і старшых рэгістратараў; б) скласці спісы населённых пунктаў па кожнаму рэгістратарскаму участку і для ст. рэгістратароў спісы калгасаў з паказаннем віда таварных ферм, спіс гаспадарак дзяржаўна-каапэрацыйнага

сектара, спіс саўгасаў і калгасаў, якія не падлягаюць перапісу праз ст. рэгістратара.

УВАГА: Да удзелу пры складанні спіса населенных пунктаў для перапісных участкаў, якіх у сельсовеце больш аднаго, неабходна запрасіць знаючых людзей (старш. сельсавета, сакратар, каморнікі і інш.)

Складзены райінспектарам спіс паселішч перапіснага участка перадаецца участковаму інспектару для праверкі у сельсаветы

2. Да 20/XII павінны быць падрыхтованы і вывераны ўсе спісы, якія уручаюцца рэгістратарам на інструкцыйнай нарадзе.

Ст. рэгістратары забяспечваюцца на інструкцыйнай нарадзе наступнымі фармулярамі, інструкцыямі і спісамі:

| | |
|---|---|
| а) Бланкамі ф. № 3-а<br>" " " 3-б<br>" " " 3-в | не менш аднаго сшытка кожнай формы на кожны перапісны участак. |
| б) " " " 5 | 2 экз. на кожную гаспадарку соцсектара, акрамя дробных. |
| в) " ф. № 8, 9 і 10 | 1 экз. на пародзістага жарабца, кабылу і кожнага быка старэй $1^1/_2$ год. |
| г) " " " — —16 | 1 экз. на ст. рэгістратора. |

д) Спіс пароднай жывёлы у аднаасобным карыстанні.
е) Спіс населённых пунктаў перапіснага ўчастка.
ж) " гаспадарак дзярж-кааперацыйнага сектара.
з) " калгасаў з паказаннем віда ферм.
і) " цэнзавых соўгасаў, каапгасаў, ОРС"аў і калгасаў, якія не абследуюцца ст. рэгістратарам.

Інструкцыя для рэгістратараў і абследавацелей.
Інструкцыя для калгасаў і соўгасаў.

**Рэгістратары:** Бланк ф. № 3-а, 3-б, 3-в і ф. № 8, 9 і 10.
Інструкцыя для рэгістратараў і абследавацелей. Спіс населённых пунктаў.

**Гаспадаркі дзяржаўна-кааперацыйнага сектара** (соўгасы, каапгасы, ОРС'сы, гаспадаркі устаноў і арганізацый).

ф. № 1 па 3 экз. на гаспадарку (гаспадарка, р-н, КНГУ)
" " 6-а, б, г—толькі для цэнзавых гаспадарак.
" " 8-14 па 1 экз. на пародзістую і племянную жывёлу кожнага віда.

Інструкцыю для соўгасаў, ОРС'аў—па 1 экз. на гаспадарку.

**Калгасы:** ф. № 2—3 экз. на калгас (гасп-ка р-н КНГУ).
" " 7-а, б, в, г,—адпаведна ферме—3 экз. на кожную таварную ферму.

Ф. № 8-14—па 1 экз. на пародзістую і племенную жывёлу кожнага віда.

Інструкцыя для калгасаў па 1 экз. на калгас.

**Абследавацелю:** ф. 5—па 2 экзэмпляра на абследуемую гаспадарку.

Інструкцыя для рэгістратараў і абследавацелей.

Інструкцыя для соўгасаў і калгасаў.

**Брыгадзіру кантрольнай брыгады:** форма № 4—з разліку 1 бланк на кожныя 20 гаспадарак асобна для калгаснікаў, асобна для аднаасобнікаў і асобна на рабочых і служачых і інш.

Інструкцыя для кантрольных брыгад.

3. Да пачатку інструктажа неабходна усе бланкі размеркаваць па рэгістратарскіх участках.

4. Скласці спіс цэнзавых калгасаў, выходзячы з наступнага цэнза. 200 галоў буйнай рагатай жывёлы (на ферме), 150 галоў свіней (на ферме) 100 галоў авец (на ферме) і больш і даслаць у Бюро перапісу жывёлы не пазней 15-га снежня 1934 г.

5. Правесці інструктаж перапіснога персанала згодна зацверджанага плана.

6. Прасачыць за ходам апрадзяленння пароднасці жывёлы, калгасаў, калгаснікаў, аднаасобнікаў і сабраць усе спісы пароднай жывёлы аднаасобнага карыстання (дадатак № 1).

7. Прасачыць за ходам інвентарызацыі у соцсектары (соўгасы, каапгасы, ОРС'ы, калгасы і інш.)

8. Прасачыць за працай Райзо па выдачы пасведчанняў калгасным таварным фермам (гл. пастанову НКЗ БССР). Таварнай фермай лічыцца ферма, на якую у калгасе маецца пасведчанне аб рэгістрацыі яе у Райза. Пры перапісу карыстайцесь гэтым апрэдзяленням.

9. Выдаць да 15/XII-34 г. пастанову РВК аб перапісу жывёлы.

10. Да 20/XII-34 г. скласці календарныя планы правядзення перапісу жывёлы па наступных прыкладных формах Календарны раённы план даслаць у Бюро Перапісу Жывёлы,

## КАЛЕНДАРНЫ ПЛАН.

Правядзення Усесаюзнага перапісу жывёлы на 1/I-1935 г.

па ________________ раёну.

| №№ інспектарскіх участкаў | Назва сельсовета | № Перапісных участкаў | Прозвішча рэгістратара | Лік гаспад. адна-асобн. і калгасн. па перапісн. уч. | Лік гаспадарак соцсектара (колгасы, уст новы). | Дата | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | Пачатак | Сканчэнне |
| | | | | | | | |

## КАЛЕНДАРНЫ ПЛАН

Правядзення перапісу па перапісому участку №________

с/с________________ Інспект. уч. №________

| Назва паселішча | Дата | |
|---|---|---|
| | Пачатку | Сканчэння |
| | | |

## КАЛЕНДАРНЫ ПЛАН

Правядзення кантрольных абходаў па раёну________

Прозвішча брыгадзіра________________

| Назва сельсовета | Назва насел. пункта | №№ кантрольных точак | Дата | |
|---|---|---|---|---|
| | | | Пачатку | Сканчэння |
| | | | | |

## КАЛЕНДАРНЫ ПЛАН.

Забяспечэння бланкамі гаспадарак соцсектара

| Назва гаспадаркі | Назва паселішча, у якім знаходзіцца гаспадарка | Адрас уч. інспектара, дзе павінна атрымаць гаспадарка бланак | Дата атрымання бланка ў і інструктажа. |
|---|---|---|---|
| | | | |

10. Правядзенне масавай растлумачальнай працы. План равядзення узгадняецца з РК КП(б)Б асвятлення у друку ходу перапісу.

11. Інфармацыя па вышэйуказаным пытанням КНГУ БССР 15, 20, 25, 30 і т. д.

БССР перапісу жывёлы УНХУ БССР.

*Бюро перапісу жывёлы УНХУ БССР*

---

# Загад № 476

## па Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Учота БССР.

**ад 23 лістапада 1934 г.**

У мэтах забяспячэння тэрмінаў правядзення Усесаюзнага перапісу жывёлы па Беларускай ССР на 1-е студзеня 1935 г. і правядзення неабходных падрыхтоўчых мерапрыемств да перапісу, з а г а д в а ю:

1. Для прапрацоўкі оргплана, інструкцыі і бланкаў перапісу жывёлы склікаць з 1-га па 6-е снежня 1934 года Усебеларускую інструкцыйную нараду раёных інспектароў Наргасучота.

2. Бюро Перапісу 5-6 снежня 1934 г. правесці з усім складам нарады, пробны перапіс у 2-х сельсаветах Пухавіцкага раёна, забяспечыўшы законадаўчае афармленне пробнага перапісу і правядзенне яго у належнасці з оргпланам і інструкцыей перапісу.

3. Бюро Перапісу пад адказнасць т. Кубана не пазней 25 Лістапада падрыхтаваць і здаць у друк астатніе інструментарыі перапісу, а Саюзоргучоту пад адказнасць т. Мільхмана не пазней 29 Лістапада надрукаваць увесь інструментарый перапісу (оргплан, інструкцыі і бланкі).

4. Майму намесніку т. Голанту і Нач. Бюро Перапісу т. Арцёмкаву да 25/XI падабраць з работнікаў Кіраўніцтва у раёны дзе адсутнічаюць інспэктара упаўнаважаных па правядзенню перапісу у гэтых раёнах, забяспечыўшы іх удзел у інструкцыйнай нарадзе і прывядзенні пробнага перапісу.

5. Ускладаю на Нач. Адм. Фінансавага Сэктара т. Герчыкава: матар'яльнае забяспячэнне нарады (харчаванне, размяшчэнне на начлег), падрыхтоўку памяшканне для працы нарады, забяспячэнне Бюро Перапісу паперай, упаковачнымі матар'яламі, а таксама безперабойную працу у друкаванні матар'ялаў і г. д.

6. Раёным інспектарам, а дзе яны адсутнічаюць, ЧВА інспэктара зьявіцца на нараду з усімі матар'ямі, згодна

ліста Бюро Перапісу ад 22 Лістапада г.г. Да выезду на нараду вырашыць у раёных дырэктыўных органах пытанне аб кадрах перапісу жывёлы (падбор і зацверджэнне рэгістратараў, абследавацелей, брыгадзіраў кантрольнай праверкі).

7. Інструктаж перапіснога персанала: участковых інспэктароў, рэгістратараў і абследавацелей правесці 20-28 снежня у раёных цэнтрах. Адказнасць за інструктаж перапіснога персанала ускласці на раёнага інспектара.

8. Ст. Эканаміста т. Акуліч з 25/XI г.г. перавесці на працу у Бюро Перапісу.

Нач. Кіраўніцтва Наргасучота БССР *Владзімірскі.*

---

# Загад № 495.

## Па Кіраўніцтву Народна-гаспадарчага учота БССР

**ад 1-га снежня 1934 г.**

У чэрвяні-ліпені 1934 г. на органы Народна-Гаспадарчага учота БССР была ускладзена важнейшая гаспадарча-палітычная задача правядзенне учота жывёлы у соц. сектары, гарадах і гарадзкіх паселішчах, а таксама правядзенне 10 проц. кантрольнай праверкі якасці НКФінаўскага учота.

Большасць раённых інспектур здолелі узняць гэту работу на належную палітычную вышыню, правялі неабходную падрыхтоўчую работу, шырока выкарысталі права органаў Наргасучота, чым забяспечылі паўнату і якасць матэрыялу і прадстаўленне даных аб пагалоўі жывёлы у вызначаны тэрмін.

Адзначаючы добрую арганізацыю і правядзенне ліпеньскага учота жывёлы з боку Райза і інспектур Наргасучота, загадваю:

1. Прадставіць ЦУНХу Дзяржплана СССР для прэміравання за узорную пастаноўку і правядзенне ліпеньскага учота жывёлы наступныя раёны:

а) Касцюковіцкі раён—інспектара т. **Лугаўцова**
б) Упаўн. па Краснапольскаму раёну т. **Мізарава**
в) Ст. Дарожскі раён—Інспктара т **Львовіча**

2. Прэміраваць з сродкаў С-Г. сектара наступныя раёны:

а) Мозырскі раён—б. інспект. т. **Аўчыннікава**—200 р.
б) Гомельскі „ — Інспектара т. **Флеера** —150 р.
в) Сіроцінскі „ — „ т. **Садоўскага**—160 р.
г) Веткаўскі „ —б. інспект. т. **Дыплевіч** —100 р.

д) Рэчыцкі „ —раб. інспект. т. . . . . . . —100 р.
е) Упаўн. па Уваравіцкаму раёну т. **Шэўчука** —100 р.
ж) Парыцкі раён —інспектара т. **Кагачэўскага** 100 р.
з) Чачэрскі раён — „ т. **Гарбачова** —100 р.
і) Упаўн. па Рэчыцкаму раёну т. **Чурко** —100 р.

3. За правільную арганізацыю і правядзенне ліпеньскага учота жывёлы і сканчэнне распрацоўкі матэрыялу у устаноўлены тэрмін 20-га жніўня прэміраваць работнікаў С. Г. сектара.

а) Нач. с.-г. сектара т. **Арцемкова**—месячным акладам
б) Кір. групы Жывёлагадоўлі т. **Каральчук** —200 р.
в) Ст. эканаміста групы жывёлагадоўлі т. **Кубана**—200 р.

Начальнік Кіраўніцтва Наргасучота БССР *Уладзімірскі.*

---

# Конкурс

## на лепшую раённую інспектуру народна-гаспадарчага ўчота БССР

### Аснаўныя задачы конкурса

У мэтах павышэння якасці работы райінспектур Наргасучота ў справе ўпарадкавання ўчотна статыстычных работ у раёне, узмацнення ўчотнай дысцыпліны, узняцця арганізуючай ролі райінспектур у справе соцыялістычнага ўчота і выяўлення лепшых узораў работы райінспектур Кіраўніцтва Народна гаспадарчага учота БССР і Цэнтральнае праўленне саюза РДУ абвяшчаюць конкурс на лепшую раённую інспектуру народна-гаспадарчага ўчота БССР.

*Конкурс праводзіцца на працягу 5 месяцаў—з 1-га снежня 1934 г. да 1-га мая 1935 года.*

### Умовы конкурса:

1. Арганізацыя справы ўчота і справаздачнасці ва ўсіх аддзелах РВК, у прыватнасці ў райАНА.
2. Своечасовае і добраякаснае правядзенне работ па перапісу жывёлы на 1-е студзеня 1935 г. (чоткая арганізацыя і правядзенне работ па перапісу жывёлы).
3. Поўная ліквідацыя запазычанасці перад сектарамі Кіраўніцтва Народна гаспадарчага ўчота па работам 1934 г. (асабліва па такім работам, як рэгістрацыя будаўніцтва, учот насельніцтва).
4. Пачыная з студзеня м-ца 1935 г. штомесячнае выкананне плана работ згодна зацверджанага Кіраўніцтвам плана работ на 1935 г.
5. Забяспечыць своечасовае размеркаванне форм і кніг і ўвядзення первічнага ўчота ва ўсіх сельсоветах раёна, у прыватнасці давядзенне не пазней студзеня м-ца кніг па формам №№ 1, 2-а, 2-б, 3 і 4

устанаўленне праз участковых інспектароў сталага кантроля за вядзеннем сельсоветамі первічнага ўчота, правядзенне інструктажа работнікаў сельсоветаў.

6. Забеспячэнне сваечасовага і добраякаснага складання гадавых справаздач па арганізацыям і прадпрыемствам раёна (калгасы, соўгасы, прадпрыемствы і г. д.)

7. Абавязковае вядзенне кнігі „асноўныя паказчыкі выканання народна-гаспадарчага плана па раёну" у 1935 г. і пастаноўка дакладаў на пасяджэннях кіруючых арганізацый раёна па спецыяльна праведзеным работам, а таксама дасылка ў КНГУ штомесячна паказчыкаў згодна ўказанняў сектара зводна-бягучай статыстыкі (па кнізе асноўных паказчыкаў—своечасовае запаўненне табліц кнігі па адпаведным тэрмінам, поўны ахоп аб'ектаў, сваечасовае складанне і прадстаўленне кіруючым органам раёна штомесячных аглядаў выканання плана з кароткім тэкставым аналізам).

8. Асабіста раённаму інспектару і работнікам інспектуры (акрамя ўчастковых інспектароў) праверыць на працягу 5 месяцаў не менш 5 сельсаветаў, 10 калгасаў, 1 соўгаса, 2-х прадпрыемстваў і гандлюючую арганізацыю па становішчу ўчота і справаздачнасці і даслаць КНГУ аб становішчы ўчотнай работы ў раёне. на працягу 5 месяцаў 2 агляда

9. Здаць тэхмінімум па статыстыцы ў аб'ёме не менш ведаў па „азбуке статыстыкі".

10. Узмацненне барацьбы супроць парушэння ўстаноўленых форм і тэрмінаў справаздачнасці і дачы неправільных справаздачных дадзеных (выяўленне фактаў спуска незацверджаных форм, парушэння тэрмінаў прадстаўлення справаздачных матэрыялаў і дачы неправільных звестак, перадача спраў прэзідыуму РВК і Пракуратуры).

11. Мабілізацыя грамадскасці вакол пытанняў учота (прыцягненне профсаюзных арганізацый, арганізацыя ячэяк ВОСУ, кантрольных пастоў. асвятленне становішча ўчота праз мясцовы друк і г. д.

## П р э м і і.

За выкананне райінспектурамі паказчыкаў конкурса вызначаюцца 6 прэмій:

1. Адна 1-я прэмія—1000 руб. для раёнаў: Менск, Віцебск, Гомель, Магілеў, Орша, Бабруйск, Касцюковічы, Мозыр, Горкі, Полацк, Рэчыца. 800 р. для раёнаў: Барысаў Брагін, Быхаў, Бярэзіна, Бешанковічы, Ветка, Гарадок, Жлобін, Копыль, Парычы, Пухавічы, Петрыкаў, Рагачоў, Старобін, Слуцк, Талачын, Шклоў. 600 р. для астатніх раёнаў.

II. 2 прэміі па 500 руб.

III. 3 прэміі па 300 руб.

Інспектура, атрымаўшыя 1-ю прэмію, атрымлівае таксама пераходны сцяг Кіраўніцтва Народна-гаспадарчага ўчота БССР.

Грашовыя прэміі выдаюцца па вызначэнні журы райінспектару і работнікам інспектуры.

## Журы конкурса:

Разгляд матэрыялаў, ацэнка работ райінспектур і прызначэнне прэміі утвараецца журы конкурса ў складзе т. т. Голанта. Магідава і Арцёмкова.

Начальнік Кіраўніцтва Наргасучота БССР *Владзімірскі.*
Упаўнаважаны ЦК Саюза Гаспадарчых установ *Вайнман.*
Начальнік Учотнай Інспекцыі *Магідаў.*

## Усім раённым інспектарам Народна-гаспадарчага ўчота.

З 1-га снежня 1934 г. па 1 мая 1935 г. Кіраўніцтвам Народна-гаспадарчага ўчота БССР будзе праведзена конкурс на лепшую раённую інспектуру Наргасучота.

Дасылаючы пры гэтым умовы конкурса, Кіраўніцтва Народна-гаспадарчага учота БССР і ЦП Саюза РДУ заклікаюць усе раённыя інспектуры Наргасучота ўключыцца ў гэты конкурс і шырока разгарнуць соцспаборніцтва паміж райінспектурамі.

Прапануем Вам абгаварыць умовы конкурса на нарадзе работнікаў райінспектуры разам з участковымі інспектарамі і паведаміць Кіраўніцтву Наргасучота аб уключэнні ў конкурс.

Галоўнейшым паказчыкам конкурса, безумоўна, з'яўляецца своечасовае і добраякаснае правядзенне работ па ўчоту жывёлы, але-ж побач з гэтым райінспектуры павінны дабіцца добрых вынікаў і па астатнім паказчыкам конкурса, бо прэміі па конкурсу будуць выданы тым інспектурам, якія будуць мець добрыя вынікі па ўсім паказчыкам конкурса.

Выкананне райінспектурамі паказчыкаў конкурса і асабліва інспектурамі, якія з'явяцца кандыдатамі на атрыманне прэміі, будзе праверана брыгадамі КНГУ БССР на месцы.

Вынікам правядзення конкурса і выкананне ўсіх паказчыкаў яго павінны быць: лепшая арганізацыя работ райінспектур, знішчэння бюрократычнага падыхода да работы, замкнутасці і абмежанасці выхад на шырокі шлях масавых учотных аперацый.

У час правядзення конкурса і выкананне паасобных работ (учот жывёлы, первічны ўчот у сельсоветах і інш.), неабходна шырока мабілізаваць грамадскасць вакол гэтых работ, (прыцягненне прафесійных арганізацый, арганізацыя соцспаборніцтва паміж паасобнымі сельсоветамі, калгасамі і работнікамі на лепшую пастаноўку і выкананне работ, асвятленне хода работ у мясцовым друку і г. д.)

Аб ходзе конкурса ўсе райінспектуры павінны абавязкова прысылаць у Кіраўніцтва Наргасучота (Учотная інспекцыя) падрабязную інфармацыю рэгулярна кожны месяц.

Матэрыялы, асвятляючыя ход конкурса, будуць змяшчацца ў інфармацыйных бюлетэнях КНГУ БССР.

Першая інфармацыя аб разгортванні конкурса ў Вашым раёне чакаецца ад Вас не пазней 1-га студзеня 1935 г.

Начальнік Кіраўніцтва Наргасучота БССР *Владзімірскі.*

Упаўнаважаны ЦК Саюза Гаспадарчых Установ *Вайнман.*

Начальнік Учотнай інспекцыі КНГУ БССР *Магідаў.*

---

# I. Афіцыйны раздзел.

## Пастанова № 2600

### Совета Народных Камісараў Саюза ССР.

**20 лістапада 1934 г.**

**Аб первічным учоце у с/советах на 1935 г.**

Совет Народных Камісараў Саюза ССР пастанаўляе:

1. Завесці з 1-га студзеня 1935 г. дадатковы перачэнь форм учота і пачатковай дакумэнтацыі с/советаў на 1935 г.
2. Адмяніць з 1-га студзеня 1935 г. перачэнь форм учота і пачатковай дакумэнтацыі с/советаў, зацверджаны пастановай СНК СССР ад 26 студзеня 1934 г.

Нам. Старшыні Совета
Народных Камісараў Союза ССР *В. Чубар.*

Нам. Кіраўніка Справамі Совета
Народных Камісараў Союза ССР *І. Межлаук.*

---

### Савет Народных Камісараў Союза ССР.

*Выпіс з пратакола № 22.*

## Пастанова № 2663

**ад 3 снежня 1934 г.**

АПЫТАННЕМ. Аб ізгатаўленні бланкаў і кніг для праводзення первічнага ўчота ў сельсоветах і учота і справаздачнасці калгасаў на 1935 г.

1. Абавязаць Советы Народных Камісараў союзных і аўтаномных рэспублік, краявыя і абласных выканаўчыя ка-

мітэты забяспечыць ізгатаўленне усіх зацверджаных пастановай СНК СССР ад 20-га лістапада 1934 г. № 2600 форм первічнага учота сельсоветаў (кніг і бланкаў), а таксама снабжэнне імі сельскіх советаў і інструкцыямі не пазней 1-га студзеня 1935 г.

Устанавіць, што выдаткі па ізгатаўленню паказаных форм і па разсылцы іх ускладаюцца на советы народных камісараў союзных і аўтаномных рэспублік (якія не маюць краявого альбо обласнога дзялення), краявыя і абласныя выканаўчыя камітэты.

УВАГА: Гэты артыкул не распаўсюджваецца на бланкі і формы па пастаўцы зерна, мяса малака і шэрсці, ізгатаўлення якіх і снабжэнне якімі утвараецца адпаведна Камзаг. СНК ССР, Наркомхарчпромам і Наркомлегпромам ССР.

2. Ускласці адказнасць на ЦУНХУ Дзяржплана СССР (Союзоргучет) за сваечасовае ізгатаўленне бланкаў учота рахункаводства ў калгасах, зацверджаных пастаноавай СНК СССР ад 20 лістапада 1934 г. № 2559, і інструкцыямі да іх, а на НКЗемляробства СССР ускласці адказнасць за снабжэнне імі калгасаў не пазней 1 студзея 1935 г.

Нам. Старшыні Совета
Народных Камісараў Союза ССР *В. Чубар.*

---

# Пастанова № 2008

## Совета Народных Камісараў БССР

**8-га снежня 1934 г.** **гор. Менск.**

### Аб першапачатковым учоце у сельскіх советах.

У адпаведнасці з пастановай СНК Саюза ССР ад 20 лістапада 1934 г. № 2600 „Аб першапачатковым учоце у селькіх советах на 1935 г. Совет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Абавязаць усе сельскія советы увесці з 1-га студзеня 1935 г. першапачауквую дакументацыю паводле зацверджанага СНК СССР пераліка форм учота і першапачатковай дакументацыі сельскіхс оветаў.

Адказнасць за сваечасовае правядзенне зацверджанага першапачатковага учота ускласці на старшынь сельскіх советаў.

2. Прапанаваць народным камісарыятам, цэнтральным установам, арганізацыям даць Саюзоргучоту заяўкі не паз-

ней 10/XII-1934 г. на патрэбную колькасць форм па іх сістэмах, для поўнага снабжэння імі сельскіх советаў.

3. Абавязаць Саюзоргучот забяспечыць надрукаванне і рассылку па раёнах пагаспадарчых кніг не пазней 15-га снежня, а ўсіх астатніх форм сельсовецкага учота да 20-га снежня 1934 г.

4. У мэтах дасканалага азнаямлення работнікаў сельскіх советаў з формамі сельсовецкага учота прапанаваць старшыням раённых выканаўчых камітэтаў склікаць 20-25 снежня нараду сакратароў і статыстыкаў сельскіх советаў для правядзення дэталёвага інструктажа з прыцягненнем работнікаў Райфа, Райза і інспектароў народна гаспадарчага учота.

5. Прапанаваць Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Учота аказваць належную інструкцыйную дапамогу работнікам сельскіх советаў і ведамстваў ва ўвядзенні першапачатковай дакументацыі і устанавіць сістэматычны нагляд за правільным увядзеннем першапачатковай дакументацыі у жыццё і прыцягваць да крымінальнай адказнасці зрыўшчыкаў першапачатковай дакументацыі у сельскіх советах.

6. Прапанаваць старшыням раённых выканаўчых камітэтаў ускласці адказнасць за своечасовае увядзенне зацверджэнай першапачатковай дакументацыі у сельскіх советах на намеснікаў старшынь раённых выканаўчых камітэтаў.

Нам. старшыні
Совета Народных Камісараў БССР *А. Саак'ян.*

Кіраўнік спраў Совета
Народных Камісараў БССР *С. Шабалтас.*

---

# Пастанова № 1831

## Савета Народных Камісараў БССР.

**5 Лістапада 1934 года** **гор Менск**

### Аб забяспячэнні калгасаў, МТС і саўгасаў формамі учота і справаздачнасці на 1935 г.

У выкананне пастановы СНК СССР ад 20 кастрычніка 1934 года № 2424, Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Абавязаць Наркамзем на працягу пяці дзён здаць заказ Беларускаму Аддзяленню „Саюзоргуота“ на друкаванне бланкаў, кніг і форм учота і справаздачнасці на 1935 г.

для калгасаў, МТС і саўгасаў паводле ўстаноўленых перачней, а Беларускаму Аддзяленню "Саюзоргучота" надрукаваць і разаслаць іх не пазней 1-га снежня 1934 г. па разнарадкам Наркамзема.

2. Надрукаванне бланкаў, кніг, форм учота і справаздачнасці ускласці на друкарню „Палес-Друку“ і Магілеўскую друкарню імя Молатава і абавязаць іх неадкладна прыняць заказ і выканаць работы ў устаноўлены вышэй тэрмін—да 1/XII-34 г.

3. Абавязаць Наркамзем праз МТС і Райза правесці у калгасах падпіску на формы учота і справаздачнасці і скончыць збор сродкаў ад калгасаў не пазней 1-га снежня 1934 г.

Разлік паміж НКЗемам і Белканторай „Саюзоргучот“ вытварыць паводле пастановы СНК СССР ад 11/XII-1933 года № 2667.

4. Абавязаць Наркамзем устанавіць кантроль за своечасовым давядзеннем форм па учоту і адчотнасці да калгасаў, МТС і саўгасаў.

5. Для забяспячэння калгасаў, МТС і саўгасаў неабходна інструктажам па арганізацыі учота і справаздачнасці дазволіць Наркамзему у лістападзе г. г. правесці міжраённыя нарады старшых інспектароў па учоту у Райза, бухгальтароў—інспектароў МТС па арганізацыі учота у калгасах, галоўных бухгальтароў МТС і старшых бухгальтароў саўгасаў. Абавязаць Кіраўніцтва Наргасуліку прыняць удзел у міжраённых нарадах і даць дырэктыву сваім раённым інспектарам аб удзеле іх у раённых нарадах па арганізацыі учота у калгасах і МТС.

Нам. Старшыні Савета Народных
Камісараў БССР *А. Саакян.*

Нам Кіраўніка Спраў Савета Народных
Камісараў БССР *І. Пятровіч*

---

# Пастанова № 1840
## Совета Народных Камісараў БССР

11 лістапада 1934 г. г. Менск.

**Аб дазволе НК Земляробства запытаць аднаразовыя звесткі аб размерах распашак.**

Совет народных камісараў БССР пастанаўляе:

1. Для ўвязкі распашкі новых зямель на 1935 год з кармавой базай, дазволіць НК Земляробства запрасіць ад-

наразовыя звесткі аб размерах распашак 1934 года па паасобным відам ужыткаў (выпасы, сухадольныя сенажаці, пералогі і інш.).

2. Абавязаць РВК прадставіць паказаныя ў п. п. весткі, аднача́сова з прадстаўленнем планаў веснавога сева на 1935 г.

Нам. Старшыні Совета
Народных Камісараў БССР *А. Саакян.*

Кіраўнік Спраў Совета
Народных Камісараў БССР *С. Шабалтас.*

---

# Пастанова № 1989

## Савета Народных Камісараў БССР.

5 снежня 1934 г. г. Менск.

**Аб павялічэнні ліку участковых інспектароў народнага гаспадарчага учота.**

У адпаведнасці з пастановай СНК СССР ад 11 лістапада 1934 г. № 2546 „Аб павялічэнні ліку участковых інспектароў народна-гаспадарчага учота" і у змену пастановы СНК БССР ад 21 жніўня 1934 г. № 1370 „Аб узмацненні раённых і гарадзкіх органаў народна-гаспадарчага учота і утварэнні участковай інспектуры народна-гаспадарчага учота", Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Установленыя СНК СССР для БССР 280 пасад участковых інспектароў размеркаваць па раёнах наступным чынам:

| | |
|---|---|
| 1. Асвейскі | 2 |
| 2. Асіпавіцкі | 3 |
| 3. Бабруйскі па раёну | 4 |
| па гораду | 1 |
| 4. Барысаўскі па раёну | 4 |
| па гораду | 1 |
| 5. Бягомльскі | 2 |
| 6. Брагінскі | 3 |
| 7. Быхаўскі. На аднаго, з якіх ускладаецца і абслугоўванне горада. | 5 |
| 8. Бялыніцкі | 4 |
| 9. Бярэзінскі | 4 |
| 10. Бешанковіцкі | 4 |
| 11. Буда-Кашелеўскі | 2 |
| 12. Віцебскі па раёну | 3 |
| па гораду | 2 |
| 13. Ушацкі | 4 |
| 14. Веткаўскі. На аднаго, з якіх ускладаецца і абслугоўванне горада. | 6 |
| 15. Глускі | 4 |
| 16. Горацкі | 2 |
| 17. Гарадоцкі | 4 |
| 18. Гомельскі па раёну | 5 |
| па гораду | 1 |
| 19. Дзяржынскі | 3 |
| 20. Дрысенскі | 3 |
| 21. Дубровенскі | 4 |
| 22. Жыткавіцкі | 2 |
| 23. Ельскі | 3 |
| 24. Жлобінскі. На аднаго з якіх ускладаецца і абслугоўванне горада. | 4 |
| 25. Заслаўскі | 4 |
| 26. Касцюковіцкі | 7 |
| 27. Камарынскі | 3 |

28. Крупскі . . . . . . 4
29. Клімавіцкі . . . . . 4

На аднаго, з які ускладаецца і абслугоўванне горада.

30. Клічаўскі . . . . . 4
31. Крычаўскі . . . . . 2
32. Кармянскі . . . . . 3
33. Краснапольскі . . . . 3
34. Копыльскі . . . . . 4
35. Лепельскі . . . . . 4
36. Любаньскі . . . . . 2
37. Лоеўскі . . . . . 3
38. Лагойскі . . . . . 3
39. Лельчыцкі . . . . . 2
40. Лазнянскі . . . . . 4
41. Менскі па раёну . . . 3
па гораду . . . 2
42. Мозырскі па раёну . . 5
па гораду . . 1
43. Мсціслаўскі . . . . 4
44. Магілеўскі па раёну . . 4
па гораду . . 1
45. Нараўлянскі . . . . 5
46. Аршанскі па раёну . . 5
па гораду . . 1
47. Прапойскі . . . . . 3
48. Парыцкі . . . . . 4
49. Полацкі па раёну . . . 5
па гораду . . 1
50. Пухавіцкі . . . . . 5
51. Плешчаніцкі . . . . 3
52. Петрыкаўскі . . . . 4
53. Рагачоўскі . . . . . 4

На аднаго, з якіх усклададцца і абслугоўванне горада

54. Расонскі . . . . . 3
55. Рэчыцкі па раёну . . . 5
па гораду . . 1
56. Сіроцінскі . . . . . 3
57. Смалявіцкі . . . . . 3
58. Суражскі . . . . . 4
59. Стара-Дарожскі . . . 2
60. Старобінскі . . . . 3
61. Слуцкі . . . . . . 4

На аднаго, з якіх ускладаецца і абслугоўванне горада.

62. Сенненскі . . . . . 3
63. Талочынскі . . . . 4
64. Тураўскі . . . . . 2
65. Уваравіцкі . . . . . 4
66. Узденскі . . . . . 3
67. Хойніцкі . . . . . 4
68. Церахоўскі . . . . . 4
69. Чэрыкаўскі . . . . . 3
70. Чаускі . . . . . . 4
71. Чэрвенскі . . . . . 2
72. Краснаслабодзкі . . . 2
73. Чачэрскі . . . . . 4
74. Чашніцкі . . . . . 3
75. Шклоўскі . . . . . 4

На аднаго, з якіх ускладаецца і абалугоўванне горада.

2. Абавязаць раёныя выканаўчыя камітэты і гарадзкія саветы і Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Учота БССР укамплектаваць да 1-га студзеня 1935 г. дадатковыя пасады участковых інспектароў палітычна-праверанымі і кваліфікаванымі работнікамі.

3. Даручыць Народнаму Камісарыяту Унутранага Гандлю праверыць выкананне райунутргандлямі пастановы СНК аб парадку і нормах снабжэння участковых інспектароў.

Нам. Старшыні Савета Народных Камісараў БССР *А. Саакян.*

Кіраўнік Спраў Савета Народных Камісараў БССР *С. Шаболтас.*

---

# Загад № 340

## па Цэнтральнаму Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Учота Дзяржплана СССР.

**ад 26 лістапада 1934 г.**

1. Пры выездзе эканаміста сэкцыі рабочых бюджэтаў ЦУНХУ т. Семенінай у раёны БССР высветлена, што у г. Рэчыцы рэгістратар Стасенко на працягу 4-х год састаўляў бюджэты рабочых сямей не шляхам штодзенай запісі, а шляхам апроса, зачастую не за ўвесь месяц. Абследваннем высветлена, што Стасенко падрабляў бюджэтныя даныя праізвольна памяншая альбо павялічвая аддзельныя стацці у тых выпадках, калі бюджэт не балансіраваўся.

2. З боку райінспэктара НГУ Рэчыцкага раёна т. Белугіна ніякага кантроля над работай рэгістратара не было. Ніякай масава-растлумачальнай работы сярод абследуемых асоб не вялося і абследуемыя па 3 гады рабочые да гэтага часу не знаюць для чаго абследванне праводзіцца куды паступаюць весткі.

Усе гэта прывяло к яўнаму ізвращэнню сапраўднага малюнка становішча рабочых бюджэтаў па гор. Рэчыцы і уключэнню у зводку па БССР заведама нягодных даных.

3. Сэктар Учота Працы КНГУ БССР не сумеў выявіць гэтага безабразнага становішча бюджэтнай работы па гор. Рэчыцы і мэханічна ўключаў негодныя даныя у зводку, тым самым уводзіў у заблужденне ЦУНХУ.

4. Улічвае агромнае палітычнае значэнне работ па вывучэнню бюджэтаў рабочых і служачых, з а г а д в а ю:

1) Рэгістратара Стасенко за сыстэматычнае очкоуцірацельство і падделку бюджэтных даных зняць з работы і аддаць пад суд.

2) Райінспэктару НГУ Рэчыцкага раёна т. Белугіну, дапусціўшаму у сваім раёне падобную работу рэгістратара не абяспечыўшаму кантроль за ею—аб'явіць суровую вымову з папярэджаннем.

3) Начальніку сэкцыі Бюджэтаў КНГУ БССР т. Антонавай—аб'явіць вымову.

4) Начальніку Сэктара Учота Працы КНГУ БССР т. Гоўзману не забяспечыўшаму нагляд за работай раёнаў—паставіць на від.

5) Зварачваю увагу Начальніка КНГУ БССР т. Владзімірскага на неабходнасць забяспечыць штодзенны нагляд за становішчам і якасцю бюджэтных работ.

6) Папярэдзіць усіх начальнікаў КНГУ рэспублікі і

абласцей, што яны абавязаны забяспечыць штодзённы кантроль за становішчам і якасцю первічных запісаў рабочых бюджэтаў і асабіста адказваюць за становішча гэтай важнейшай работы.

Нам. Нач. Цэнтральнага Кір. Наргасучота
Дзяржплана СССР *Папоў*

---

# Загад № 1157

## Па Народнаму Камісарыяту Земляробства БССР

ад 3-га лістапада 1934 г..

Камісіей савецкага кантроля па БССР, абследваннем работнікамі НКЗБ, інспектурай Наргасуліку БССР устаноўлена; што пастанова СНК СССР ад 15 студзеня 1933 г. № 109 „Аб забароне увадзіць незацверджаную справаздачнасць“—груба парушана Асобныя Райза, МТС нават кіраўніцтва і арганізацыі сыстэмы НКЗБ пад роўнымі прадлогамі працягіваюць пратасківаць незаконную справаздачнасць. Напрыклад: Белводгас спусціў па усе сваей сыстэме незацверджаные формы справаздачнасці так званые месячная справаздача раймеліаратара, па масавай меліарацыі, гідратэхніцы і культуртэхніцы; льнокіраўніцтва НКЗБ. 2/II-34 г па 2/3 затрабавала ад усіх МТС і Райза па незацверджанай форме наяўнасці і патрэбнасці кузнечнага інструмента; кіраўніцтва жывёлагадоўлі 27.V-34 г. за № 1/7 затрабавала ад усіх Райза і трэстаў сыстэмы НКЗБ незаконную справаздачнасць па агляду і браніраванні насеннікаў трав ураджаю 1934 г. Сэктар буйнай рагатай жывёлы Жывёлагадоўчага Кіраўніцтва НКЗБ, затрэбавал ад ўсіх Райза, незаконную справаздачнасць аб мэтывацыі авец, Кіраўніцтва Конегадоўлі НКЗБ 11. X-34 г. затрабавала ад усіх Райзо па незацверджаным формам звесткі аб становішчы конегадоўчых ферм, Ельскі Райза увёў замест квартальнай справаздачнасці аб калектывізацыі 15-ці дзенную справаздачнасць, Бешанкавіцкій Райза увёў штодзённую адчотнасць у час уборачнай кампаніі, Чырвонаслабодскі Райза,—штодзённую справаздачнасць аб ходзе асенняга сева. Аршанскі Райза замест квартальнай справаздачнасці аб калектывізацыі патрабуе гэтыя звесткі некалькі разоў у месяц, у некалькіх раёнах пад відам політ-інфармацыі штодзённа збіраюць ад с с і калгасаў забараненыя законам Ураду звесткі. (Брагінскій, Камарынскі, Гомельскі, Сененскі, Віцебскі, Пухавіцкі, Мсціслаўскі), гэта робіцца пры

умовах калі законныя справаздачы не астаўлены не здавальняючы і цэлы шэрах раёнаў да гэтага часу не забяспечылі ні якаснай стараны ні тэрмінаў яе прадстаўлення НКЗБ.

Такое агіднае становішча НКЗБ разглядае як нежаданне забяспечываць выкананне пастановы Ураду у галіне справаздачнасці з аднаго боку і унядрэння устаноўленай справаздачнасці у раёне.

Загадваю:

1. Усю пералічаную вышэй незацверджаную справазданнасць як парушаючую закон СНК СССР ад 15.I 34 г. неадкладна адманіць.

2. Начальнікам Кіраўніцтва: Льнянога, Жывёлагадоўчага, Конегадоўчага, Начальніку Белводгаса за санкцыяніраванне незацверджанай Урадам (дзікай) справаздачнасць, стаўлю, на від.

3. Загадчыкам Райзо Аршанскага, Брагінскага, Камарынскага, Сенненскага, Ельскага, у 3-х дзённы тэрмін даць мне пісьмовае тлумачэнне аб незаконна уведзенай справаздачнасці. У адносіне загадчыкаў Райза Чырвонаслабодскага, Бешанкавіцкага, Віцебскага, Пухавіцкага, Аршанскага, абмежвацца раней наладзеным мною на іх пакаранням.

4. Папярэджываю усіх загадчыкаў Райза, Дырэктароў МТС, начальнікаў кіраўніцтва і устаноў сыстэмы НКЗБ, што пры паўторным устанаўленні фактаў парушэння закона СНК аб справаздачнасці будуць прыняты да віноўных самыя суровыя меры пакарання.

Адначасова растлумачваю, што адказнасць будуць нясці, як спускаючыя незаконныя справа здачы гэтак і выконваючыя гэтыя незаконныя распараджэння

5. У мэтах налажэння спуска зверху незацверджаных форм справаздачнасці на переферыю устанаўліваю наступны парадак:

а) усе распараджэнні зональных кіраўніцтв, аддзелаў і кіраўніцтв НКЗБ, цэнтральных арганізацый сістэмы НКЗБ па пытанню учота і справаздачнасці павінны быць падпісаны асабіста мною альбо адным з маіх наместнікаў з абавязковай нівай праекта гэтага распараджэння начальніка Учотна-Статыстычнага Аддзела НКЗБ.

б) Загадчыкам Райза, дырэктарам МТС, дырэктарам саўгасаў сыстэмы НКЗБ і усім кіраўнікам устаноў сыстэма НКЗБ лічыць усі распараджэнні па ўчоту і справаздачнасці не падпісаныя мною альбо маім наместнікам незаконны

мі і аб кожным асобным выпадку ў гэтага распараджэнне ставіць мяне у вядомасць праз начальніка Учотна-Статыстычнага Аддзела НКЗБ т. Сакалова.

в) Абавязываю Начальніка Учотна-Стат. Аддзела НКЗБ т. Сакалова своечасова паведаміць усе Райза, МТС саўгасы сістэмы НКЗБ, кіраўніцтва і установы сістэмы НКЗБ аб тым, якая урадам запверджана праграма учота і адчотнасці на 1935 г. з прылажэнне поўнага набора форм учота і адчотнасці і тэрмінаў яе прадстаўлення.

Нарком Земляробства БССР *В. Бенек*

---

БССР
Народны Камісарыят
Земляробства
11|XI-34 года.
№ 6—4

**Гарадокскаму Райпракурору**

Копія **Райзэ**

**Наргасучоту**

Райінспектар Наргасучота Гарадокскага РВК т. Аўдзеяў у сваей заяве ад 24/X паведамляе—аб фактах самавольнага парушэння устаноўленай справаздачнасці ф. № 14 аб ходзе злучнай кампаніі і ф № 2-4 аб відах на ураджай.

Мяркуючы па дасланых тав. Аўдзеявым бланках форм, прыстасаваных Райза, можна зрабіць наступны вывад:

Замест існуючай ф. № 14 Райза выпрацавала новую форму, паводле якой на калгасы ускладаецца абавязак даваць весткі аб ходзе злучак у гаспадарках калгаснікаў, між тым, згодна інструкцыі, звесткі аб ходзе злучнай у гаспадарках калгаснікаў даюць упаўнаважаныя сельсаветаў.

Акрамя таго, у прыстасаванай зводцы уключан новы пункт: „трэба было пакрыць“.

Райза не мелі права уводзіць новую форму справаздачнасці.

Што датычыцца ігнаравання пастаноўкі учота аб ходзе злучнай па аднаасобным сэктарам, дык у гэтай часці абвінавачванне тав. Аўдзеева не мае пад сабой ніякай падставы, бо Райза сыстэматычна дасылае зводкі аб ходзе злучнай у гаспадарках аднаасобнікаў.

Просім прыцягнуць да судавой адказнасці Кіраўніцтва Гарадокскага Райза за самавольнае змяненне устаноўленай справаздачнасці па форме № 14 аб ходзе злучнай кампаніі.

Нач. Уч. Стат. Аддз. НКЗБ *Сокалаў.*

Ст. Эканаміст *Іоселевіч.*

## Касцюковіцкаму Райфа (страхавой інспекцыі)

Копія – Усім Страхавым Інспекцыям Гарфа і Райфа.

Кіраўніцтвам Наргасучота БССР атрымана паведамлення, што Вамі для вядзення вучота паступленняў акладных страхавых плацяжоў па сельсаветах запатрабавана ад апошніх прадстаўленне вестак аб здаваемых за кожны дзень сумах у Дзяржбанк. Запатрабаванне такіх звестак ад сельсаветаў супярэчыць зацверджаных ЦКНГУ СССР формам сельсавецкага ўчота і справаздачнасці.

Таму Кіраўніцтва Дзяржстраха БССР прапануе неадкладна адмяніць запатрабаваныя Вамі ад сельсаветаў весткі па непрадугледжаным формам справаздачнасці.

Папярэджваем, што у далейшым за запатрабаванне ад сельсаветаў справаздач па не зацверджаным ЦКНГУ формах прыцягнуты да судавой адказнасці.

Для вядзення учота паступіўшых сум акладных страхавых плацяжоў па сельсаветах трэба карыстацца прадстаўляемымі сельсаветамі ў Райфа справаздачамі па мабілізацыі сродкаў і выпіскамі Дзяржбанка аб паступіўшых сумах ад сельсаветаў на бягучы рахунак страхавой інспэкцыі.

Нам. Начальніка Кіраўн. Дзяржстраха
БССР *В. Трашкоў.*

22 Лістапада 1934 г.
№ 4.

# II. Работа КНГУ і яго сыстэмы.

## Уключыцца ў конкурс на лепшую інспектуру.

Кіраўніцтвам Народна-Гаспадарчага Учота БССР абвешчан конкурс на лепшую інспектуру.

Асноўнымі умовамі конкурса з'яўляюцца:

а) выкананне поўнасцю гадавога плана работы;

б) пасьпяховае правядзенне перапісу жывёлы;

в) унядрэнне первічнага учота ў сельсоветах.

Умовы у рабоце райінспектур для выканання усіх пунктаў конкурса безумоўна маюцца, патрэбна толькі умець скарыстоўваць усе маючыеся магчымасці і умела арганізаваць работу.

Адной з самых спрыяючых умоў работы інспектуры— гэта існуючая сетка участковых інспектароў, якія пры правільнай арганізацыі іх работы змогуць і павінны стаць асноўнымі арганізатарамі учота і справаздачнасці па сваім участкам.

Першыя крокі работы участковых інспектароў паказваюць, што паасобныя раёныя не уразумелі важнасці правільнай арганізацыі работы участковых інспектур а некаторыя, нават, і не цікавяцца іх работай.

Так, напрыклад Веткаўская інспектура зусім не ведае што участковы інспектар т. Сундукоў сядзіць у сябе дома і не выходзіць на работу ў свой участак; Рагачоўскі райінспектар т. Пташкоўскі, як бачна, лічыць зусім лішняй абузай трымаць участковых інспектароў і пагэтаму аднаго участковага інспектара перадаў без згоды КНГУ на сталую работу у райплан, а другога раіць перавесці ў іншы раён на пасаду раённага інспектара.

Зразумела, што пры такіх адносінах да арганізацыі работы участковых інспектароў, не толькі не палепшыцца ўчотная справа ў раёне, но наогул выдаткоўваюцца дзяржаўныя сродкі напрасна.

Маюцца і такія выпадкі, як напрыклад, у Заслаўскім раёне, дзе участковы інспектар т. Гейфецман выклікаецца ў раённую інспектуру для даклада аб праробленай рабоце на сваім участку, то ён альбо зусім не з'яўляецца, а калі

з'яўляецца, то ніякай канкрэтна праведзенай работы не паказвае.

Не лепш абстаіць справа арганізацыі работы у самых раённых інспектурах у Сенненскай раённай інспектуры інструктар-статыстык спазняецца штодзённа на работу, а статыстык зусім не выходзіць на работу тыднямі і з'яўляецца толькі атрымаць акуратна зарплату, а ч. вык. абавязкі райінспектара т. Шалуха лічыць, як бачна, што так і павінна быць у Мозырскай інспектуры пры адсутнасці раённага інспектара, альбо пры знаходжэнні райінспектара на раёне, работнікі інспектуры пры атрыманні ад КНГУ тэрміновага паведамлення не адкрываюць яго, таму што „ не хочуць браць на сябе адказнасць“.

Абавязак кожнай інспектуры Наргасучота не фармальна ўключыцца ў конкурс, а сапраўды па-дзелавому узяцца за работу так, каб раз назаўсёды ліквідаваць прарывы па учотнай справе і наладзіць учот і справаздачнасць па раёну і, бязумоўна, перш на перш, гэта арганізаваць правільна работу свайго апарата ў інспектуры і участковых інспектароў.

*Магідаў*

---

## Аб рэгістрацыі будаўніцтва.

Змешчаныя у гэтым нумары бюлетня зводкі аб ходзе рэгістрацыіі жывелагадоўчага будаўніцтва за III кв. 1934 года., а таксама зводка аб ходзе рэгістрацыі бягучага будаўніцтва за 9 месяцаў 1934 г. выразна адлюстроўваюць малюнак становішча рэгістрацыі і, больш таго, на падставе змешчаных зводак можна судзіць аб рабоце райінспектур і адносіны іх да задач рэгістрацыі будаўніцтва. Становішча рэгістрацыі жывёлагадоўчага будаўніцтва з вычарпальнай яскравасцю паказвае на ганебна—недапушчальныя адносіны, асабліва з боку некаторых райінспектур, да гэтай надзвычай важнай справы і што горш, такое далёка нездавальняючае становішча мы маем пасля шматлікіх напамінкаў. Усё гэта дазваляе нам канстантаваць, што у рабоце райінспектур няма яшчэ і зараз зруху, не адчуваецца перабудовы іх работы у адпаведнасці з запатрабаваннямі сучаснага моманта. Работа некаторых райінспектур не ўзнята на ўзровень задач, высунутых зараз перад Наргасучотам. Некаторыя райінспектары яшчэ і зараз не уявілі ўсей палітычнай важнасці задачы поўнай і свачасовай рэгістрацыі жывёлагадоўчага будаўніцува, шчыльна звязанага з высунутай партыяй і Урадам баявой і не адкладнай задачай—вырашэннем праблемы жывелагадоўлі.

Прыкладам ганебнага зрыву работы па рэгістрацыі жывёлагадоўчага будаўніцтва могуць служыць райінспектуры, якія на працягу цэлага кварталу не патурбаваліся зарэгістрыраваць ні воднага аб'екту, альбо зарэгістраваўшы не даслалі зводку ЦУНХУ. Мы пакуль што упэўнены ў першым.

Між іншым, патрэбна падкрэсліць як характэрную рысу, што некаторыя райінспектуры не прадставіўшы зводак маюць прарывы і цягнуцца ў хвасце і па іншым работам. (гл. бюлецень № 23).

Ёсць і такія райінспектуры, якія высылаюць штомесячныя зводкі па жывёлагадоўчаму будаўніцтву з паказаннем у іх значна большай колькасці аб'ектаў чым даслана нам картак па рэгістрацыі бягучага будаўніцтва за 9 мес. Беспрэчна, што тут маем справу з выключна недобрасумлёнымі адносінамі да выконваемай работы; прыкладам такой работы можа служыць Ельск і некаторыя другія. Не лепш абстаіць і з рэгістрацыяй бягучага будаўніцтва. Усё гэта выклікае неабходнасць сігналізаваць нашым райінспектарам аб той небяспецы, якая ставіць зараз пад пагрозу зрыва поўнага учота і ў асаблівасці жывёлагадоўчага буда-ва. Задача не абмяжоўваецца толькі колькасным бакам справы.

Тут патрэбна нашым райінспектурам звярнуць максімум увагі і на якасны змест гэтай работы. Патрэбна не толькі учытваць, але-ж учытваць поўнасцю і добраякасна, без браку, своечасова Апошняму моманту не заўсёды звярачваецца неабходная увага. Гэта можна выканаць пры той умове, калі нашы райінспектуры перабудуюць сваю работу на базе яснай і чоткай яе пастаноўкі, калі яны усвядомяць палітычную важнасць выконваемых імі работ і з бальшавіцкай настойлівасцю будуць яе праводзіць.

*Каштанаў.*

---

# ЗВОДКА № 1

аб ходзе рэгістрацыі жывёлагадоўчага буд-ва за III кв. 1934 г. з паказаннем колькасці аб'ектаў (пачатых або скончаных) сваечасова зарэгістрыраваных г. зн. увайшоўшых у месячныя зводкі.

| №№ п. п. | Назва раёнаў | Уключаны у зводкі аб'ектаў | №№ п. п. | Назва раёнаў | Уключаны у зводку аб'ектаў |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Ельск | 71 *) | 39 | Мсціслаўль | 5 |
| 2 | Ліозна | 63 | 40 | Старыя дарогі | 5 |
| 3 | Жлобін | 53 *) | 41 | Чырвоная Слабада | 5 |
| 4 | Карма | 40 | 42 | Барысаў | 4 |
| 5 | Мазыр | 39 | 43 | Бялынічы | 4 |
| 6 | Прапойск | 31 | 44 | Лельчыцы | 4 |
| 7 | Бярэзіна | 29 *) | 45 | Копыль | 3 |
| 8 | Парычы | 24 | 46 | Лоеў | 3 |
| 9 | Смалявічы | 23 | 47 | Полацк | 3 |
| 10 | Чачэрск | 22 | 48 | Бешанковічы | 2 |
| 11 | Магілеў | 21 | 49 | Дзяржынск | 2 |
| 12 | Быхаў | 19 | 50 | Петрыкаў | 2 |
| 13 | Нароўля | 19 | 51 | Церахава | 2 |
| 14 | Горкі | 18 *) | 52 | Шклоў | 2 |
| 12 | Сено | 15 | 53 | Гомель | 1 |
| 16 | Ушачы | 15 | 54 | Рагачоў | 1 |
| 17 | Касцюковічы | 14 | 55 | Узда | 1 |
| 18 | Плешчаніцы | 13 | 56 | Асвея | — |
| 19 | Асіпавічы | 12 *) | 57 | Бягомль | — |
| 20 | Слуцк | 11 | 58 | Брагін | — |
| 21 | Талачын | 11 | 59 | Віцебск | — |
| 22 | Бабруйск | 10 | 60 | Гарадок | — |
| 23 | Старобін | 10 | 61 | Дрыса | — |
| 24 | Камарын | 9 | 62 | Дуброўна | — |
| 25 | Расоны | 9 | 63 | Жыткавічы | — |
| 26 | Чэрыкаў | 9 | 64 | Крупкі | — |
| 27 | Орша | 8 | 65 | Клімавічы | — |
| 28 | Рэчыца | 8 | 66 | Лепель | — |
| 29 | Тураў | 8 | 67 | Лагойск | — |
| 30 | Крычаў | 7 | 68 | Менск | — |
| 31 | Любань | 7 | 69 | Пухавічы | — |
| 32 | Уваравічы | 7 | 70 | Сіроціна | — |
| 33 | Ветка | 6 | 71 | Сураж | — |
| 34 | Заслаўль | 6 | 72 | Хойнікі | — |
| 35 | Буда-Кашалева | 5 | 73 | Чаусы | — |
| 36 | Глуск | 5 | 74 | Чэрвень | — |
| 37 | Кпічаў | 5 | 75 | Чашнікі | — |
| 38 | Краснаполле | 5 | | | |

*) На паказаную колькасць аб'ектаў картак КНГУ не атрымала так што праца гэтых раёнаў пад сумленнем.

Па колькасці зарэгістрыраванах аб'ектаў можна судзіць, як тая ці іншая райінспектура вядзе барацьбу за сваечасовае асвятленне выканання на мясцох пастаноў партыі і Ураду па пытанням жывёлагадоўл.

Нач. Сект. учота буд-за КНГУ БССР *Каштанаў*

# ЗВОДКА № 2

аб ходзе рэгістрацыі бягучага буд-ва 1934 г. па становішчу на 1-е лістапада 1934 г. з паказаннем колькасці аб'ектаў пачаўшых або закончыўшых будаўніцтва на працягу 9 мес. 1934 г.

| №№ п. п. | Назва раёнаў | Зарэгістр. аб'ектаў | №№ п. п. | Назва раёнаў | Зарэгістр. аб'ектаў |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Уваравічы | 252 | 39 | Петрыкаў | 55 |
| 2 | Мозыр | 225 | 40 | Пухавічы | 54 |
| 3 | Менск | 178 | 41 | Церахоўка | 53 |
| 4 | Глуск | 172 | 42 | Дзяржынск | 50 |
| 5 | Бешанковічы | 170 | 43 | Полацк | 50 |
| 6 | Гомель | 158 | 44 | Буда-Кашалева | 49 |
| 7 | Карма | 151 | 45 | Камарын | 47 |
| 8 | Смалявічы | 144 | 46 | Краснаполле | 42 |
| 9 | Магілеў | 140 | 47 | Жлобін | 45 |
| 10 | Бялынічы | 134 | 48 | Старобін | 45 |
| 11 | Парычы | 129 | 49 | Дрыса | 43 |
| 12 | Быхаў | 128 | 50 | Тураў | 38 |
| 13 | Сіроціна | 127 | 51 | Нароўля | 37 |
| 14 | Рэчыца | 110 | 52 | Сенно | 37 |
| 15 | Віцебск | 106 | 53 | Лоеў | 36 |
| 16 | Прапойск | 102 | 54 | Чашнікі | 36 |
| 17 | Лезна | 101 | 55 | Ветка | 34 |
| 18 | Чэрвень | 101 | 56 | Плешчаніцы | 33 |
| 19 | Касцюковічы | 95 | 57 | Лельчыцы | 32 |
| 20 | Узда | 89 | 58 | Заслаўль | 31 |
| 21 | Копыль | 86 | 59 | Клічаў | 28 |
| 22 | Дуброўна | 84 | 60 | Мсціслаўль | 28 |
| 23 | Бабруйск | 78 | 61 | Лепель | 22 |
| 24 | Гарадок | 77 | 62 | Клімавічы | 21 |
| 25 | Ушачы | 77 | 63 | Рагачоў | 21 |
| 26 | Шклоў | 77 | 64 | Лагойск | 19 |
| 27 | Барысаў | 75 | 65 | Асвея | 17 |
| 28 | Чырв. Слабада | 73 | 66 | Хойнікі | 14 |
| 29 | Бягомль | 69 | 67 | Расоны | 14 |
| 30 | Крычаў | 67 | 68 | Ельск | 13 |
| 31 | Любань | 67 | 69 | Сураж | 8 |
| 32 | Чычэрск | 66 | 70 | Жыткавічы | 4 |
| 33 | Слуцк | 65 | 71 | Асіпавічы | 3 |
| 34 | Талачын | 65 | 72 | Крупкі | 1 |
| 35 | Брагін | 61 | 73 | Бярэзіна | — |
| 36 | Старыя Дарогі | 61 | 74 | Горкі | — |
| 37 | Орша | 60 | 75 | Чаусы | — |
| 38 | Чэрыкаў | 58 | | | |

Колькасць зрэгістрыраваных па кожнаму раёну аб'ектаў з'яўляецца найлепшым паказчыкам працаздольнасці райінспектуры.

Нач. Сектара учота буд-ва і камун. гасп-кі КНГУ БССР *Каштанаў*

## Ажыццяўленне шэфства над райінспектурамі.

Горацкая інспектура з'яўляецца падшэфнай с-г. сэктару. Увесь час гэта інспектура адносілася да адстаючых інспектур і амаль круглы год не выходзіла з 4-й катэгорыі.

У сучасны момант амаль усе работы інспектурай выкананы, маецца толькі прарыў па руху насельніцтва, які інспектура абавязалася ліквідаваць не пазней 1-га снежня.

Галоўным недахопам работы інспектуры з'яўляецца павольнасць тэмпаў, слабае уздзейнічанне інспектуры на парушыцелей, учотнай дысцыпліны.

Гэта асабліва відаць зараз, калі усе работы амаль выкананы, але значная частка з іх выканана з вялікім спазненнем і вось гэта спазненне увесь час цягне інспектуру уніз. Калі возмем работу па руху насельніцтва, дык маюцца с/саветы, якія на працягу 1934 г. не прадставілі ні адной справаздачы па руху насельніцтва, а з боку інспектуры не прыніталіся рашучыя меры.

Але разам з гэтымі недахопамі інспектура дабілася значных поспехаў у сваей рабоце. Інспектура адчуваецца ў раёне, як цэнтр усіх учотна-статыстычных матар'ялаў патрэбных для працы раёных арганізацый. Седзячы у інспектуры можна наглядаць, як за ўсякага рода матар'яламі учота раёныя работнікі звярачваюцца да тав. Аніхоўскага, які хутка і акуратна ў любы момант можа даць усякую даведку, бо учотна-статыстычны матар'ял у яго сыстэматызован, разложан і падшыт па адпаведным справам, у якіх кожнаму лехка знайсці патрэбныя даныя па таму ці іншаму пытанню.

Якасць дасылаемага інспектурай матар'яла у КНГУ добрая. Перш чым адправіць які-небудзь матар'ял, апошні дэталева правераецца і увязваецца.

Недрэнна працуе і ячэйка ВОСУ, якой кіруе т. Аніхоўскі, што відаць хацябы з таго факта, што у ячэйцы маецца дасканалы учот сяброў і калі 19/XI старшыні РВК патрэбна было 7 чалавек для выканання тэрміновай працы па Заготлену, т. Аніхоўскі зараз-жа гэтых людзей мабілізаваў і накіраваў на прызначэнню.

Горацкая інспектура мае усе магчымасці каб выйсці на адно з першых месц сярод лепшых інспектур, штат укамплектован досыць кваліфікаванымі работнікамі, сам т. Аніхоўскі ведае свой раён добра, неабходна толькі яшчэ больш мабілізавацца.

Таксама і з боку Кіраўніцтва патрэбны больш уважлівыя адносіны да інспектуры, большая забота аб людзях.

Яшчэ маюцца моманты лішняй дзерганіны, калі інспектара застаўляюць дасылаць адзін і той-жа матар'ял па два разы і вылічаюць грошы з інспектара, між тым, як матар'ял быў даслан сваечасова (Сэкцыя Бюджэтаў ф. № 3), а калі патрэбна утрыманыя грошы зноў вярнуць інспектуру, дык справу валакіцяць па некалькі месяцаў.

*Р. Каральчук.*

---

## За точны і правільны учот натуральнага руху насельніцтва.

Адной з важнейшых прадпасылак правільнага вылічэння колькасці насельніцтва з'яўляецца точнае і поўнае вывучэнне працэсаў натуральнага руху насельніцтва, праводзімае органамі ЗАГС.

На вялікі жаль гэта работа у шмат раёнах да сучаснага моманта пастаўлена настолькі нездавальняюча, а у некатарых безабразна, як напрыклад: Горацкі, Клімавіцкі, Чавускі; Заслаўскі, Сененскі, Барысаўскі, Полацкі, і Магілеўскі (сельская частка), што ні ў якой ступені не адказвае тым патрабаванням, якіе да яе прад'яўляюцца. Райінспектура не цікавіцца пастаноўкай гэтай работы ў сельсаветах і работа гэта пушчана на самацёк, зусім адсутнічае інструктаж і кантроль у рабоце сельсаветаў па гэтай частцы, у выніку чаго, акрамя колькаснага недаучота назіраецца недобраякаснае запаўненне формуляраў, несваечасовая адсылка, альбо не адсылка зусім другіх экземпляраў у Райінспектуры. Ёсць такіе сельсаветы, якія на працягу амаль цэлага года не перадаюць у райінспектуру матар'яла рэгістрацыі запісаў актаў грамадзянскага становішча, а інспектуры, як напрыклад Слуцкая, замест таго каб ставіць гэта пытанне перад РВК лічаць, што гэта упаўне нармальнае з'явішча, матывіруя тым, што калі матар'ял ад сельсаветаў не прыбывае, значыць не было выпадкаў нараджэння і смерці, а усё-ж цяжка дапусціць, што у сельсаветах з 3-4 тысячнай колькасцю насельніцтва на працягу амаль года не было ні воднага выпадка нараджальнасці і смертнасці.

З арганізацыяй Народнага Камісарыята Унутраных Спраў і Упаўнаважаных у раёнах справа наладжання бягучага учота натуральнага руху насельніцтва аблегчаецца, бо па лініі НКУС па гэтаму пытанню даюцца канкрэтные указанні упаўнаважаным з якімі райінспектуры павінны цесна звязацца.

Работа па бягучаму учоту натуральнага руху насельніцтва павінна стаць цэнтральнай задачай усей работы райінспектуры.

*Смарадзінская.*

---

## Становішча учотнай работы у раёнах.

(Па матэрыялам абследвання)

### Мсціслаўскі раён.

1. Рэгістрацыя будаўніцтва з 1934 г. недастатковая, не ўсе аб'екты да гэтага часу зарэгістрыраваны.
2. Па руху насельніцтва не даны звесткі ў Кіраўніцтва НГУ БССР за кастрычнік м-ц з 10 сельсоветаў нема яшчэ звестак.
3. Нема звестак па будаўніцтву па ф. № 4-а за верасень і кастрычнік м-цы.
4. Не скончана праца аб наліччы жывёлы у рабочых і служачых па сельсоветам згодна чэрвенскага учота.
5. Кніга аснаўных паказчыкаў выкананне плана амаль што не запоўнена: па прамысловасці ёсць паказчыкі за 1-ы квартал; па раздзелам насельніцтва, совецкі гандаль, камунальная гаспадарка, сельская гаспадарка, нема паказчыкаў за ўвесь год.
6. Ячэйкі ВОСУ у раёне не арганізаваны.
7. Кнігі первічнага учота за 1934 год па форме № 2-а 2-б і 3 у наступных сельсоветах: Падскітаўскім, Хлышчэўскім, Курманоўскім, Печынкоўскім, Янавіцкім, Татарышчынскім і Ходаскім запоўнены толькі да раздзелаў 6 і ўсе кнігі не закончаны.

За 1935 г. па ф. № 3 разнесены толькі план мяса, па паступленню мяса не адмечана.

### Віцебскі раён.

1. Кніга аснаўных паказчыкаў раёна вядзецца, але па групе прамысловасці не па форме спушчанай КНГУ; фінансавыя паказчыкі, аховы здароўя і па нарасвеце не вядуцца. Натуральны рух насельніцтва даведзен да ліпеня м-ца уключна. Механічны рух насельніцтва не вядзецца, таксама адсутнічае вядзенне камунальнай гаспадаркі, Дарбудаўніцтва і наогул выкананне будаўніцтва ў раёне.
2. Штат райінспектуры укамплектован дастаткова (9 асоб) і сярод працоўнікоў—6 добра кваліфікаваных,

3. У сучасны момант заўважана вялікае падрыхтоўчая праца для прадстаячага правядзення перапіса жывёлы. У гэтым напрамку прароблена наступная праца: а) сабраны ад сельсаветаў усе ітогавыя спіскі па чэрвенскаму учоту жывёлы; б) выверан спіс населенных пунктаў сельсоветаў; в) складзен спіс усіх соўгасаў, коопгасаў, ОРС'аў, сельсаветаў, сельпо, МТС і інш. арганізацый нахадзяшчыхся на тэрыторыі сельсоветаў.

4. Участковыя інспектары праводзяць работу па размеркаванню ураджая і прыбыткаў у калгасах. На 27/XI маецца перапісаных 26 калгасаў, што складае прыкладна 60%.

Што датычыцца наогул работы інспектуры у сэнсе праверкі работы сельсаветаў і выяўленне незаконнай адчотнасці, то як выяўлена з спраў інспектара, апошняй зроблен аб'езд 11 с/советаў (за жнівень, верасень і кастрычнік) дзе інспектура займалась унядрэннем с/совецкага учота, унядрэннем па гаспадарчых кніг і запісаў у іх па выкананню абавязкаў перад дзяржавай па мясу і малаку. Аднак, фінансавы учот за выключэннем 2-х с/советаў, не праверан. Пытаннем праверкі учотнай дысцыпліны удзелялася недастаткова увагі.

## Жыткавіцкі раён.

1. Учот будаўніцтва пры райінспектуры пастаўлен не на належную вышыню, справа ідзе самацёкам, многа аб'ектаў будаўніцтва па калгасам раёна не зарэгістрыравана.

2. Па руху насельніцтва сельсоветы даюць звесткі у райінспектуру штомесячна, но не ў тэрмін.

3. Журнал аснаўных паказчыкаў выкананне плана раёна па прамысловасці зусім не запоўнен, па с/гаспадарцы запоўнен за 1-шы і 2-гі кварталы не па ўсім паказчыкам, астатнія аддзелы зусім не запаўняюцца.

4. Кан'юктура раённым арганізацыям ні разу не давалась.

5. Ячэйка ВОСУ у раёне не арганізавана.

6. Выезды на раён райінспектар робіць мала, за ўвесь час ім абследвана 5 с/советаў у напрамку правідловага выдзялення кніг першчнага учота дзе высветлена па сельсоветам: Ляховіцкаму, Лодзеніцкаму, Бронеславіцкаму, Юркевіцкаму, Руднінскаму, што кнігі первічнага учота за 1934 г. былі заведзены, але заблытаны і не закончаны. За 1935 г. у кнігі па ф. № 3 у с/советах занесены толькі план мяса, але выкананне мяса не занесена.

## Старобінскі раён.

1. Да гэтага часу райінспектар не паклапаціўся аб падысканні другога участковага інспектара.

2. Не зроблен матэрыял па выбарцы гаспадарак рабочых і служачых па с/саветах па жывёле і не забеспечан другі участак па выкананню працы па прыбыткам калгаснікаў за 1934 г. дзякуючы адсутнічанню участковых інспектароў.

3. Журнал аснаўных паказчыкаў выканання плана раёнаў поўнасцю не заведзен, па прамысловасці ёсць толькі паказчыкі за 1-шы квартал, па с/гаспадарцы—за 1-шы і 2-гі кварталы, а па другім раздзелам ніякіх паказчыкаў нема.

4. Рэгістрацыя будаўніцтва стаіць на належнай вышыні.

5. Па руху насельніцтва усе сельсоветы звесткі даюць штомесячна.

6. Пры Старобінскім с/совеце кнігі первічнага учота па ф. № 2-а, 2-б, і 3 за 1934 г. заведзены, але на закончаны. За 1935 г. у кнігі па ф. № 3 разнесены план мяса і выкананне пастаўкі мяса. Кнігі вядуцца акуратна.

## Петрыкоўскі раён.

1. Інспектура не дастаткова звярнула увагі на учотную дысцыпліну, у выніку чаго аказалась, што пры праверцы справаздачнасці у Горсовеце установлена, што у час пасеўной і уборачнай кампаніі запатрабаваліcь звесткі не па зацверджаным формам. Супроць парушэнняў на працягу 1934 г. было узнята 5 спраў, але інспектура не ведае вынікаў. Первічны учот у Горсовеце заведзен добра, але выкананне малака і мяса ў кнігах не занесена, т. к. Горсовет не атрымлівае звестак з Молпрома і Заготжывёлы. Інспектура забеспечана добрымі умовамі для работы.

2. Журнал аснаўных паказчыкаў плана раёна запаўняецца добра, але раённым арганізацыям кан'юктуры не прадстаўляецца.

3. Ячэйка ВОСУ у раёне не арганізавана.

## Мозырскі раён.

1. Штат інспектуры поўнасцю не укамплектован, адсутнічае эканаміст і нам. інспектара.

2. Кніга аснаўных паказчыкаў выканання плана поўнасцю не вядзецца.

3. Дзякуючы преступна-недбайным адносінам да перапісі бібліатэк з боку РайАНА і Райпрофсовета, гэта перапісь па райінспектуры сорвана (з 150 маючыхся па раёну аб'ектаў даслана толькі—51).

4. Райінспектурай узняты справы за зрыў перапісу б-к на РайАНА і Райпрофсовет, таксама узнята справа на на-ка тэхнічнага участка Белхімлеса за непрысылку сваечасова справаздачнай карткі па учоту труда і зарплаты.

5. Алсутнічае належная дысцыпліна ў сваечасовай дачы патрэбных матар'ялаў як ад сельсоветаў, так і ад устаноў, дзякуючы чаму Райінспектура знаходзіцца ў прарыве.

6. Ячэяк ВОСУ у раёне нема.

## Чаускі раён.

1. Не закончана работа па рэгістрацыі будаўніцтва і зводкі у Кіраўніцтва НГУ не дасланы.

2. Па натуральнаму руху насельніцтва не даслана зводка за кастрычнік м-ц.

3. Кніга „аснаўных паказчыкаў выканання плана раёна" пры райінспектуры зусім не вядзецца.

4. Ячэяк ВОСУ у раёне нема і ніякай работы па стварэнню іх не вядзецца.

5. У Благавіцкім сельсовеце пры праверцы кніг першічнага учота па ф. № 2-а і 2-б, за 1934 г. выяўлена, што яны заведзены толькі па графах аб складзе членаў гаспадаркі (разд. 5 і 6), па ф. № 3 запоўнены толькі раздзелы 5, 6, 7, і 8 здачы малака і мяса за 1934 г. не адзначана, за 1935 г., па ф. № 3 занесена толькі план пастаўкі мяса, а выканання нема.

## Крупскі раён.

1. Участковая інспектура па Крупскаму раёну цалкам запоўнена.

2. Зараз участковыя інспектара прыступілі к рабоце па запаўненню бланкаў аб размеркаванні ураджаю калгасаў адначасова ім прапанавана заняцца у сельскіх мясцовасцях перапісам усіх аб'ектаў будаўніцва.

3. У адносіне работы Крупскай інспектуры па барацьбе з парушэннем учотнай дысцыпліны неабходна адзначыць, што гэтым пытаннем інспектура пачала займацца толькі у апошнія паўтара-два м-цы. Выяўлены формы незаконнай адчотнасці спушчанай Наркомземам і Райзо; па лініі гэтых арганізацый даны зараз указанні з Наркамзема аб тэрміновай адмене незаконных форм.

4. Журнал аснаўных паказчыкаў вядзецца, але не па ўсім пытанням (па прамысловасці за апошнія месяцы запіс адстала).

5. Кан'юктура да гэтага часу не прадстаўлялася; у кастрычніку м-цы напісана і прадстаўлена у РВК і Райком КП(б)Б па квартальнаму учоту жывёлы, на падставе якой вынесена пастанова РВК аб упарадачэнні убоя жывёлы і прыцягнення да адказнасці старшынь калгасаў за не прадстаўленне квартальных справаздач.

6. Аднэй з адстаючых работ інспектуры з'яўляецца выяўленне і рэгістрацыя будаўніцтва.

7. Праверана 3 аддзела Райвыканкома (Райза Нарасветы, Райздраў) і раённые арганізацыі—Заготжывёла Заготлён, Райспажыўсаюз, а таксама 2 с/советы (Бабруйскі, м/совет і Бабруйскі с/совет), пры чым праверка вытваралась галоўным чынам з пункта погляда нарушэння законаў аб учотнай дысцыпліны. Пры праверцы выяўлена, што раённыя арганізацыі, не глёдзячы на пастанову СНК ад 27/VI-34 г., а таксама на пастанову Камісіі Совецкага Кантролю ад 27/X-34 г. прадаўжаюць займацца безканечным заграмаджэннем раённых арганізацый асабліва с/советаў і калгасаў патрабаваннямі не законнай адчотнасці. Не глёдзячы на такія факты, якія вельмі адбіваюцца на нармовай працы с/советаў і калгасаў. Райінспектура не цікавіцца гэтай працай, лічучы яе лішняй. Да гэтага часу Райінспектура праверкай первічнага учота амаль зусім не займалась і у с/советах мала бывала.

## Лезненскі раён.

1 Інспектура амаль не займалась пытаннем барацьбы за ўчотную дысцыпліну, налажываннем первічнага ўчота, у выніку чаго пры праверцы становішча справаздачнасці у Райзо і первічнага учота ў Лезненскім с/совеце устаноўлена, што Райзо увесь час атрымлівае амаль ад усіх с/советаў звесткі па незацверджаным формам. Первічны учот заведен вельмі дрэнна, зусім адсутнічаюць паказчыкі выканання плана па малаку, мяса, бульбы як за 1934 г. так па мясу і за 1935 г.

2. За не прадстаўленне своечасовых звестак на працягу 1934 г. былі аштрафаваны бухгалтэр льнозавода і два рахункаводы калгасаў.

3. Журнал аснаўных паказчыкаў плана не запаўняецца.

4. Райінспектура арганізацыей ячэяк ВОСУ не займаецца.

5. Памяшканне райінспэктуры умовам працы не адпавядае т-к. памяшчаецца у аднэй канцэлярыі РВК.

## Суражскі раён.

1. Участковым інспектарам т. Артахшастам была утворана праверка становішча первічнага учота па 3-м с/советам: Марчанскаму, Краўцоўскаму і Курынскаму. Праверка первічнага учота па с/советам паказала, што райінспектура да гэтага часу зусім не зацікавілась пастаноўкай гэтай работы па с/советам.

2. За увесь 1934 г. не было ні аднаго выезда у с/советы работнікаў райінспектуры. З паступіўшых матэрыялаў ад участковых інспектароў, бачна што становішча з первічным ўчотам па ўсім с/советам кепскіе.

3. З боку кіраўніцтва РВК мелісь выпадкі, калі старшыня РВК даваў загад каб участк. інспектары непасрэдна самі завадзілі учот па с/советам. Старшыня РВК лічыць, што сельсовецкі учот гэта апошняя справа.

4. У райінспектуры усе справы знаходзяцца ў належным парадку. Журнал аснаўных паказчыкаў выканання плана зусім не вядзецца,

5. На працягу 1934 г. спраў супроць нарушэння учотнай дысцыпліны не было.

6. Ячэяк ВОСУ у раёне нема.

7. Участковыя інспектары т. Герасімаў і Аркахшаст увесь час знаходзіцца ў с/советах, дзе праводзяць інструктаж і дапамогу у вядзенні учота. Яны працуюць сумленна-жаданне працаваць у іх маецца.

У сувязі з заявай участк. інспектара Герасімава была праверка становішча снабжэння уч. інспектароў пайком, выявілась наступнае: хлебны паёк яны атрымліваюць поўнасцю, жонка Герасімава не атрымала пайка з прычыны таго, што яна працуе у РайАНА і павінна была атрымоўваць там паёк. Што датычыцца іншых прадуктаў як сахар і крупа, то гэтыя прадукты за лістапад м-ц на іх яшчэ не атрыманы. Маецца дагаворанасць з Райснабам на выдачу інспектарам бульбы.

---

## У барацьбе за законную справаздачнасць.

Гарадоцкая Райінснектура зараз змагаецца за налажванне учота, які па некаторым галінам вельмі адстае.

Райінспектура вядзе барацьбу з Райзо за незацверджаныя формы, якія спушчаны на нерыферыю: ф № 4, якая вызначана для відаў на ўраджай, а райзо склаў сваю уласную форму для кіраўнікоў калгасу і наіменаваў формай № 4. Дзякуючы гэтаму Заг. Райзо т. Крапіўка дзезаргані-

зуя справаздачнасць, уносяць блытаніну. Другая ф. № 11-а вызначаная для справаздачы старшыны с/с. па справаздачнасці злучнай кампаніі тав. Крапіўка перапрацаваў на свой лад, выкінуў ад туль аднаасобны сэктар і накіраваў непасрэдна старшыням калгасаў, у той час калі старшыні калгасаў адчытываюцца перад старшынямі с/с. па ф. № 4 а старшын с/с па маючымся матар'ялам калгасаў даюць справаздачу па ф. № 11-а у Райзо.

На маю забарону із'яць формы загадчык Райзо адказаў: „не Ваша справа, не займайцесь ерундой і г. д.".

Мае даказацельства аб тым, што гэта мая справа і не ерунда не убедзілі тав. Крапіўка і ён застаўся пры сваей думцы і накіраваў мяне пракурору (аб чым я сам добра ведаю). Мною складзен акт, і накірован пракурору, УНХУ і Наркамзему для таго каб даказаць т. Крапіўка, што гэта мая справа і не ерунда.

Такі першы пачын маей працы.

Але на гэтым заставацца нельга, патрэбна заглянуць ва ўсе куткі; ёсць паасобныя сельсаветы, ад якіх з самага пачатку не атрыманы другія бланкі па ЗАГС'у.

Мною ужо зроблен другі напамінак пасля чаго безумоўна справу накірую пракурору.

Ад КНГУ патрэбна будзе дапамога у сэнсе правільнага кіраўніцтва гэтай працай, патрэбна давесці справу да канца каб справа не засталася на паўдарозе.

Інспектар НГУ *Аўдзей.*

---

## За неўпарадкаванне сельсовецкага учота.

Згодна перададзенай Прапойскай інспектурай пракурору справу на сакратара Прапойскага м/с т. Бітчэнка за неувядзення первічнага учота, апошні з работы знят.

---

## Ударыць па канкрэтных віноўніках зрыва фондаў зарплаты і колькасці персанала.

Сэктар Учота НКАсветы замест таго, каб узначаліць працу па ўчоту фондаў зарплаты і персанала—злачынна яе зрывае.

Праверкай пастаноўкі гэтай работы па Уваравіцкаму РайАНА устаноўлена, што НКАсветы з мая месяца не забяспечвае РайАНА бланкамі для збора звестак па культасветным і палітасветным установам, не кіруе гэтай працай,

а пусціў яе на самацёк і таму, ня дзіва, што заг. Увараціцкага раёна тав. Сарокіна здзіўлена сустракае работнікаў райінспектуры НГУ калі яны патрабуюць наладжвання працы па ўчоту фондаў зарплаты і здзіўлена заяўляе: „Чаму гэта НКАсветы нічога не піша па гэтаму пытанню“.

Бяручы прыклад з НКАсветы і Заг. РайАНА т. Сарокіна недалёка абашла сваё начальства. Яна даручыла цалкам гэту працу некваліфікаванаму статыстыку РайАНА (непоўналетней), не праверае як выконваецца гэта работа і не прымае ніякіх мер да загадчыкаў культпалітасветных устаноў, якія упарта не дасылаюць звестак і лічыць, што за справу учота справаздачнасці яна не адказвае.

Амаль аналегічны малюнак ёсць у РайАНА і па астатнім учетным работам.

Патрэбна моцна ўдарыць па зрыўшчыкам учота фондаў зарплаты па культасветным установам і прымусіць іх пачыная з НКАсветы і канчая нізоўкай, перабудаваць справу учота і справаздачнасці на аснове социялістычных метадаў працы, а гэта магчыма зрабіць ліквідаваўшы абязлічку і функцыоналку ажыцяўляючы штодзённае аперацыйнае кіраўніцтва справай учота, памятаючы словы т. Леніна, што „соцыялізм—гэта перш за ўсего учот“ памятаючы, што без дасканалага ўчота немагчыма ажыцяўляць сапраўдны дзелавы кантроль.

Райінспектар НГУчота Увараціцкага раёна *А. Бондараў.*

---

# Пастанова

## Прэзыдыума Быхаўскага Раённага Выканаўчага Камітэта

**13-га лістапада 1934 года.**

**„Аб выкананні пастаноў ураду па спрашчэнню справаздачнасці у сельсаветах раёна і РВК“.**

Заслухаўшы даклад інспектара Наргасучоту аб выкананні пастановы Прэзыдыума РВК ад 16 красавіка 1934 года „па спрашчэнню справаздачнасці у сельсаветах і РВК“— Прэзыдыум РВК адзначае: што побач з укараненням у сельсаветах первічнага вучоту ёсць такіе с/саветы (Баркалабаўскі, Б. Сялецкі, 1-шы Грудзінаўскі, Кузькаўскі, Макранскі, Чыгрынскі і Горсавет) у якіх увыніку недаацэнкі справы вучота гэтакі вядзецца вельмі нездавальняюча: да на-

ступнага часу па кніге форма № 3 не разнесены планавыя заданні дзяржаўных абавязкаў, як-та: малакапастаўкі, мясапастаўкі, шэрсць, бульба, зернавыя і інш. плацяжы, а таксама не адзначаецца іх выкананне, па шэрагу сельсаветаў журнал учота хода сельгаскампаніі (форма № 6) хаця і заведзен, але акуратна не вядзецца, не на ўсіх сельсаветах вядзецца (форма № 8—Тайманаўскі, Макранскі і друг. с/с.) днеўнік грашовых паступленні і даначысленні, сложэніі, зачота і узварота пераплат. Акты, опісі маёмасці із'яцця і рэалізацыі (форма № 40) складаюцца многімі с/с. не на бланках, а на клочках бумагі і із'ятае маёмасць не афармляецца, як гэта патрабуя інструкцыя па справаздачнасці сельсаветаў. У сувязі з чым бываюць у с/с. розныя непаразуменні.

Загсаўскія кнігі многімі с/с. запаўняюцца не акуратна і не правідлова вядзецца нумарацыя, а таксама амаль што усімі с/саветамі не сваечасова дасылаюцца другія экз. актаў інспектуре Наргасучоту.

Па шэрагу с/с. адсутнічае вучот насельніцтва с (кнігі форма № „3“ а і 2 „б“) не запоўнены.

Прэзыдыум Быхаўскага Райвыканкома пастанаўляе:

1. бавязаць старшын і сакратароў с/с. на працягу м-ца лістапада г. г. забяспечыць поўнае увядзення першічнага вучоту у с/с., а таксама закончыць разноску па кнігам форма № 3, як заданне, так і выкананне усіх дзяржаўных абавязкаў насельніцтва перад дзяржавай і грашовых плацяжоў і астатніх кніг первічнага учоту.

2. Інспектарска-інструктарскаму персаналу РВК і аддзелаў праверыць укараненне первічнага учоту ва ўсіх с/с. і аб тых с/саветах, якія да наступнага часу поўнасцю не зрабілі разноску выканання насельніцтвам усіх відоў павіннасцяў і падаткаў і ухіляюцца ад выканання гэтай работы-складаць акты, якія прадстаўляць прэзыдыуму РВК для прыняцця належных мер.

3. Для падагульвання вынікаў работы па ўкараненню первічнага учоту у 1934 г. і для інструктажа на 1935 г. правесці у снежні м-цы г. г. раённую нараду сакратароў і рахункаводаў с/с.

4. Прапанаваць інспектуре Наргасучоту устанавіць сталы нагляд за далейшым укараненнем зацверджанай для с/с. і РВК справаздачнасці і учота вядучы рашучую барацьбу супраць парушыцеляў устаноўленых форм.

5. Катэгарычна забараніць усім аддзелам РВК і астатнім установам і арганізацыям запатрабаваць ад с/саветаў, якіх-бы то нібыло звестак па незацверджаным формам.

6. Абавязаць Загадчыка РайАНА і Райздрава на пра-

цягу лістапада месяца дасканала наладзіць вучот у сваіх аддзелах, а таксама і астатнім загадчыкам аддзелаў звярнуць увагу на добраякасную пастаноўку учоту і справаздачнасці па аддзелам.

7. За ігнарыраванне вядзення первічнага учоту у сельсаветах абвясціць вымову сакратару Баркалабаўскага с/савета і Макранскага с/савета, папярэдзіў сакратароў Б. Сялецкага, Чыгрынскага, 1-ша Грудзінаўскага, Горсавета і Кузькаўскага с/саветаў, што калі яны не увядуць поўнасцю да 1/XII-34 г. у с/саветах первічны учот то яны будуць адказываць як за зрыў первічнага учоту у саветах.

Старшыня РВК *Грынкевіч.*

Сакратар *Несцярэнка.*

---

# Выпіска

## з пратакола паседжання Прэзідыума Касцюковіцкага Райвыканкома

**26-га лістапада 1934 г.** **м. Касцюковічы**

СЛУХАЛІ: Аб становішчы первічнага ўчота ў сельсоветах і парушэнняў па ўчоту і справаздачнасці. (Дакл. райінспектар НГУ т. Лугаўцоў).

ПАСТАНАВІЛІ: Рад сельсоветаў (Бялынкавіцкі, Чарняўскі, Царковіцкі, Ногінскі і Баханоўскі) не глядзячы на забяспечаннасць іх кнігамі і іструктажам, працягваюць ігнарываваць пастаноўку у сельсовеце первічнага ўчота.

Аддзелы РВК (Райфо, Райзо і Сабез.) у сваю чаргу замест таго, каб у сябе весці учот, згодна ўстаноўленых форм, сістэматычна парушаюць учот, патрабуюць ад сельсоветаў розныя весткі па праізвольным формам, чым загружаюць сельсоветы ізлішняй канцэлярскай работай і парушаюць весці учот па зацверджаным формам:

Выходзячы з чаго прэзыдыум РВК ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1. За ігнарыраванне вядзення первічнага учота (кнігі № 1, 2-а, 2-б 3 і 7) вынесці вымову з папярэджаннем сакратару Царковіцкага сельсовета т. Кляўсу і был. рахункаводу т. Васілеўскаму.

У адносіне был. сакратара Нагінскага сельсовета т. Купцова, які́м разбрушыравана пратакольная кніга і із'яты

частка пратаколаў—справу перадаць райпракурору і прасіць прыцягнуць да крымінальнай адказнасці Купцова.

2. Абавязаць усіх загадчыкаў аддзелаў РВК пад іх асабістую адказнасць наладзіць і паставіць у сваіх аддзелаў учот і справаздачнасць па формам і кнігам, зацверджаным ЦУНХУ, кіруючысь пастановай ЦВК СССР і СНК БССР ад 22/VIII-1933 г., адначасова даўшы паказанне па сельсоветам аб адмене незаконнай справаздачнасці, якая імі патрабавана ў лістападзе м-цы г/г.

3. Папярэдзіць усіх старшынь і сакратароў сельсоветаў, што пры далейшым абнаружанні зрыва ў іх пастаноўкі первічнага учота справаздачнасці, вінаватыя будуць прыцягвацца да судовай крымінальнай адказнасці.

4. Райінспектару і уч. інспектарам Народна-Гаспадарчага Учота забяспечыць сельсоветы, аддзелы РВК, установы і прадпрыемствы надлежашчым інструктажам і установіць нагляд за поўным выкананнем пастаноў урада па вядзенню учота і справаздачнасці і аб ўсіх парушэннях давадзіць да ведама Прэзідыума РВК.

Згодна: Сакратар РВК *Вулаеў.*

# III. Работа участковых інспектароў

## Мая работа на участку ў раёне.

(Ліст участковага інспектара)

Па прыезду з Менску, мною на сваім участку зроблена наступнае:

Праведзена абследванне пастаноўкі учота і справаздачнасці 4-х сельсоветах: Лагойскім, Кузеўскім, Юрнаўскім і Швабскім. Аб выніках абследвання першых 2-х сельсоветаў мною складзены акты, а па астатнім 2 сельсоветам акты не складзены, а толькі дадзена указанне аб выяўленых дэфэктах і аб хутчэйшай ліквідацыі іх. Сакратаром сельсоветаў былі прачытаны выняткі з інфармацыйнага бюлетня КНГУ № 22 аб становішчы первічнага учота ў сельсоветах некаторых раёнаў (Бешанковічы, Любань і інш.), а таксама былі прачытаны пастановы ЦВК і СНК ад 23 лістапада 1933 г. аб скарачэнні справаздачнасці сельсоветаў.

За гэты жа час мною наведана 21 калгас у Кузеўскім, Юркаўскім, Швыбскім і Падогінаўскім сельсоветах. Ва ўсіх наведаных калгасах мною праведзен інструктаж і дадзена тлумачэнне рахункаводам калгасаў па складанню квартальнай справаздачы па аўцаводным таварным фермам, бо з 24 гэтых таварных ферм, маючыхся ў маім участку 14 ферм даслалі справаздачу за III квартал надзвычайна дыфэктныя а 8 ферм зусім не даслалі гэтых справаздач.

Акрамя таго, ў гэтых калгасах мною даваліся указанні адносна барацьбы супроць увядзення незаконных форм справаздачнасці і усім рахункаводам калгасаў (а ў большасці —у прысутнасці старшыні калгасаў) была зачытана пастанова ЦВК і СНК ад 23 лістапада 1933 г.

Побач з гэтым, мною выяўлена 5 спушчаных форм, незацверджаных ЦУНХУ, па якім патрабаваліся звесткі ад калгасаў, а мінавіта: адна форма спушчаная начальнікам палітаддзела МТС (змяшчае 32 паказчыкі і 227 граф), форма аб растаноўцы зямельных угодзяў спушчана Райзо і змяшчае у сябе 35 паказчыкаў для складання плана растаноўкі на 1935 г. дзе формы аб кадрах калгасаў спушчаныя ды-

рэктарам раёнай калгаснай школы, схема пашпарт. нацыянальнага сельсовета, прысланы РВК і змяшчае ў сабе 26 пунктаў і па некалькі граф у кожным пункце.

Адначасова праводзілася падрыхтоўчая работа да прадстаячага перапісу жывёлы 1 студзеня 1935 г., удасканаленне спіса населеных пунктаў і колькасці гаспадарак у іх, праверка хода работы зоотэхнікаў па апрадзяленню пародпасці жывёлы, сваечасовы перавод яе з адной узростнай групы ў другую у калгасах.

Выяўлена незарэгістраваных у інспектуры Наргасучота 23 будаўнічых аб'ектаў, на якія ўручаны рэгістрацыйныя бланкі і дадзена тлумачэнне аб парадку запаўнення гэтых бланкаў.

Выяўлена, што у калгасах не уведзены поўнасцю усе зацверджаныя формы учота і справаздачнасці (у некаторых калгасах кладаўшчыкі вядуць запісы не ў кладавых кнігах, а ў сшытках, альбо маюцца кнігі, але не для гэтага прызначэння (грашовыя кнігі прыстасоўваюцца для учота прадуктаў); адсутнічае цэлы шэраг бланкаў, якія прыходзіцца графіць ад рукі. Наглядаюцца выпадкі, калі грашовыя дакуманты раскіданы у розных папках і сшытках і праверкі па гэтых дакумантах робяцца несваечасова.

Працягваю збіраць звесткі для ЦУНХУ аб размеркаванні даходаў у калгасах за 1934 г.

Участковы Інспектар Лагойскага раёна *Камароў.*

---

## Рашуча змагацца супроць увядзення незацверджанных форм

(з ліста ўчастковага інспектара).

Інспектар 2-га участка Нараўлянскага р-на тав. Кравец паведамляе, што 12-га лістапада г. г., будучы у Нараўлянскай канторы Масла прома ён заўважыў там 4 формы спісаў—звестак, якія павінны былі даць с/советы і калгасы, а іменна:

1. Спіс грамадзян, у якіх выбылі каровы пасля уручэння ім абавязацельстваў (6 паказчыкаў);
2. Спіс перавучота кароў па весцы альбо калгасу (7 паказчыкаў);
3. Спіс асоб, якія аслабанены ад здачы малака ў 1934 г. (7 паказчыкаў) і
4. Спіс асоб, якія закантрактавалі цёлкі для надзялення безкароўных калгаснікаў (7 паказчыкаў).

Пакольki гэтыя формы незацверджаны органамі Наргасучота, інспектар т. Кравец забараніў патрабаванне звестак па гэтым формам. Работнікі канторы Маслапрома зпачатку супярэчылі супроць забароны („участковы інспектар не хазяін і не можа нам указваць“), але-ж, калі т. Кравец растлумачыў, што задачай інспектуры Наргасучота з'яўляецца барацьба супроць увядзення незаконных форм, то яны самі гэтыя формы адмянілі і ўзялі у райінспектуры зацверджаныя формы.

Паказаны прыклад яшчэ раз падцверджае, што участковыя інспектары побач з іншай работай павінны таксама весці рашучую барацьбу супроць патрабавання справаздачнасці і розных звестак па незацверджаным формам.

*К. Б.*

---

## Дабіць увядзення первічнага учота ва ўсіх с/советах.

(Ліст участковага інспектара).

Участковы інспектар Наргасучота 1-го участка Лоеўскага раёна паведамляе, што первічны учот па ўстаноўленым формам №№ 1, 2-а 2-б і 3 амаль што ва ўсіх с/советах майго участка заведзен на 1934 г.

Некаторыя с/советы з учотам адсталі па той прычыне, што ішла перавыбарчая кампанія у с/советах.

Пагаспадарчыя кнігі ф. № 3 на 1935 г. заведзены у сельсаветах акрамя Передзельскага С/С., дзе будуць таксама заведзены.

Участковы інспектар *Колос.*

---

## Соцумова.

12-га лістапада 1934 г.

Мы участковыя інспектары Прапойскага раёна т. Драздоў П. А. і Копылоў І. Ф. па першай даручанай рабоце ЦУНХУ бярем на сябе наступныя абавязкі.

1. да 20/XI-34 г. Шляхам асабістага абхода калгасаў дапоўніць даныя трэбуемыя па бланку размеркаванне даходаў.

2. Праз кожныя 4 дні даваць інфармацыю інспектару Нар. Гасп. Учоту аб улічаных і не даўлічаныя калгасам.

3. Адначасова зарэгістраваць будаўніцтва дзе незарэгістравана.

4. Первічны учот на 1935 г. завесці у тых с/саветах у якіх незаведзены і адзначыць мясапастаўкі у лік плана 1935 г.

5. Прасачыць за правадзімым учотам плем. жывёлы з такім разлікам, каб да часу перапісу жывёлы у калгасах і сельсаветаў была занесена як належыць быць у плем. кнігу.

Участ. Інспектары *Драздоў, Капылаў.*

---

## Фактычна даказана.

На нарадзе райінспектароў Наргасучота 7/XII пры абгаварэнні становішча выканання плана работ па сектару учота культуры і быта я звярнуў увагу усей нарады на тую акалічнасць, што толькі дзякуючы поўнай бяздзейнасці і нежадання выконваць дырэктывы партыі і пастановы ураду з боку інспектара Рагачоўскай інспектуры т. ПТАШКОЎСКАГА перапіс бібліятэк па Рагачоўскаму раёну сарван.

Т. ПТАШКОЎСКІ імкнуўся тады даказаць, што у Рагачове „асаблівыя ўмовы“ і ніхто іншы ўсё роўна нічога не зробіць там.

Па выступленню т. ПТАШКОЎСКАГА на нарадзе і яго прыватных гутарках са мной можна было прыйсці да заключэння, што перапіс бібліятэк па Рагачоўскаму раёну сарван канчаткова. Аднак, добра ведаючы, што „асаблівыя умовы“ з'яўляюцца звычайнай спасылкай людзей нездольных і нежадаючых змагацца за выкананне плана, катэгарычна адхіліўшы гэту спасылку, я заявіў, што прычыны не ў гэтым, а выключна ў нежаданні т. ПТАШКОЎСКАГА па-дзелавому узяцца за гэту работу.

У гэтай маей думцы мяне цалкам падтрымала уся нарада, абураная гэткай развязнасцю і бяздзейнасцю т. ПТАШКОЎСКАГА.

Я тады-ж заявіў, што неадкладна накіроўваю ў Рагачоў таварыша з сектара, які па сваей кваліфікацыі, нават ніжэй за т. ПТАШКОЎСКАГА, які ўсю работу па перапісу скончыць на працягу 3-4 дзён, т. зн. зробіць тое, што т. ПТАШКОЎСКІ не здолеў зрабіць за 2 месяца.

Даважу да ведама ўсіх удзельнікаў нарады:

т. БУРАЧКОЎ (работнік сектара учота культуры і быта) выехаў з Менска ў Рагачоў 7/XII увечары.

13/XII раніцай 11 гадз. дня т. Бурачкоў з'явіўся з усім матэрыялам па перапісу бібліятэк па Рагачоўскаму раёну. Якасць матэрыяла—здавальняючая.

Няхай гэты факт паслужыць прыкладам для усіх тых, хто не жадае змагацца за выкананне плана, спасылаюцца на „асаблівыя умовы“ і „спецыфічнасць“ і тым самым зрываюць наша агульнае змаганне за своечасовае і добраякаснае выкананне плана і першынства нашага Кіраўніцтва ва ўсей сістэме Наргасучота СССР.

Начальнік сектара учота
Культуры і быта *Шындлер.*

---

# Якасць работы Райінспектур

## на 1-е снежня 1934 г.

| №№ Катэгор. | Раён | Па якім работам прарывы |
|---|---|---|
| 1 | Брагін | Картка № 8; бюджэты калгаснікаў. |
| 1 | Бялынічы | Натур. рух расельніцтва. |
| 1 | Буда-Кашелева | Прарываў няма. |
| 1 | Бешанковічы | Картка № 8. |
| 1 | Ушачы | Натур. рух насельніцтва. |
| 1 | Касцюковічы | Картка № 8. |
| 1 | Копыль | Картка № 8. |
| 1 | Сураж | Рэгістр. жывёлагад. б-ва за кастрычнік. |
| 1 | Тураў | Картка № 8. |
| 2 | Асвея | Рэгістр. жывёлагад. б-ва за кастрычнік, картка № 8, натур. рух н-ва. |
| 2 | Барысаў | Картка № 8. учот працы па буд-ву. натур. рух нас ва. |
| 2 | Бегомль | Рэгістр. жывёлагад. б-ва за кастрычнік, картка № 8, натур. рух нас-ва. |
| 2 | Быхаў | Учот працы па с-г. прадпрыем., нат. рух нас. |
| 2 | Ветка | Картка № 8, учот працы па с-г. прадпр., нат. рух нас-ва. |
| 2 | Гарадок | Рэгістр. жывёлагад, буд-ва за кастрычнік, учот працы па прам. арг., нат. рух нас-ва. |
| 2 | Дрыса | Рэгістр. жывелагад. буд-ва за кастрычнік, учот працы с-г. прадпр., нат. рух нас-ва. |
| 2 | Дуброўна | Рэгістр. жывёлагад. буд-ва за кастрычнік. нат. рух нас-ва. |
| 2 | Ельск | Рэгістр. жывёлагаа. буд-ва за кастрычнік, нат. рух нас-ва. адчот-газэта за III кв. |
| 2 | Жлобін | Картка № 8, учот працы па с-г. прадпр., нат. рух нас-ва. |
| 2 | Крупкі | Форма № 82, картка № 8, учот працы па с-г. прадпрыемствам. |
| 2 | Любань | Учот працы па буд-ву, па с-г. прадпрыемств., натур. рух нас-ва. |
| 2 | Ліозна | Рэзістр. жывёлагад. буд-ва за кастрычнік, учот працы па с-г. прадпр., наг. рух нас-ва. |
| 2 | Мозыр | Натур. рух насел., перапіс б-к. |
| 2 | Орша | Учот працы па с-г. прадпр.. натур. рух нас-ва. |
| 2 | Прапойск | Картка № 8, учот працы па с-г. прадпр., натур. рух нас-ва. |
| 2 | Сіроціна | Рэгістр. жывёлагад. буд-ва за кастрычнік, картка № 82. |
| 2 | Смалявічы | Картка № 8, учот працы па с-г. прадпр. |
| 2 | Старобін | Учот працы па с-г. прадпр. |

| №№ катэгор. | Раён | Па якім работам прарывы |
|---|---|---|
| 2 | Слуцк | Учот працы па прадпр., учот працы па с-г. прадпр., натур. рух нас-ва. |
| 2 | Талачын | Учот працы па с-г. прадпр., нат. рух нас-ва. |
| 2 | Узда | Рэгістр. жывёлагад. буд-ва за кастрычнік. учот працы па с-г. прадпр. |
| 2 | Хойнікі | Форма № 8. учот працы па с-г. прадпр., нат. рух нас-ва. |
| 2 | Чэрыкаў | Форма № 8. |
| 2 | Чачэрск | Форма № 8, натур. рух нас-ва. |
| 2 | Чыр. Слабада | Учот працы па прамысловасці. |
| 2 | Чашнікі | Учот працы па буд-ву, учот працы па с-г. прадпр. |
| 3 | Бабруйск | Рэгістр. жывёлагад. буд-ва за кастрычнік, пас-парт горада, картка № 8, учот працы па с-г. прадпр. нат. рух нас-ва. |
| 3 | Віцебск | Рэгістр. жывёлагад. буд-ва за кастрычнік, пас-парт горада, учот працы на прадпр., учот працы па буд-ву, учот працы с-г. прадпр., нат. рух нас-ва. |
| 3 | Глуск | Рэгістр жывёлагад. буд-ва за кастрычнік. учот працы у прадпрыемств., учот працы с-г. прад-прыемств., натур. рух нас-ва. |
| 3 | Горкі | Картка № 8, бюджэты калгасн., учот працы у прамысл., учот працы па с-г. прадпр., нат. рух нас-ва. |
| 3 | Гомель | Паспарт горада, картка № 8, учот працы па прадпр., учот працы па с-г. прадпрыемств. нат. рух нас-ва. |
| 3 | Дзержынск | Рэгістр. жывёлагад. буд-ва за кастрычнік, кварт. № 82, нат. рух нас-ва, перапіс б-к, ад-чот газэты за III кварт. |
| 3 | Жыткавічы | Картка № 8, бюджэт. калгасн., учот працы. па буд-ву, учот працы па с-г. прадпр., нат-рух нас-ва. |
| 3 | Заслаўль | Рэгістр. жывёлагад. буд-ва за кастрычнік, карт-ка № 8, учот працы па с-г. прадпр., натур. рух нас-ва. |
| 3 | Камарын | Рэгістр. жывёлагад. буд-ва за кастрычнік, карт-ка № 8, учот працы па буд-ву, натур. рух нас-ва. |
| 3 | Лепель | Рэгістр. жывёлагад. буд-ва за кастрычнік, учот працы па прамысл., учот працы па с-г. прадпр. натур. рух нас-ва. |
| 3 | Лоеў | Карка № 8, учот працы па прамысл., натур. рух нас-ва. |
| 3 | Лагойск | Рэгістр. жывёлагад. буд-ва за кастрычнік, карт-ка № 8, учот працы па с-г. прадпр., натур, рух нас-ва, |
| 3 | Лельчыцы | Рэгістр. жывёлагад. буд-ва за кастрычнік, карт-ка № 8, учот працы па с-г. прадпр., натур. рух нас-ва. |

| №№ катэгор | Раён | Па якім работам прарывы. |
|---|---|---|
| 3 | Менск | Рэгістр. жывёлагад. буд-ва за кастрычнік, пашпарт горада, учот працы па прамысл., учот працы па с-г. прадпр., нат. рух нас-ва. |
| 3 | Мсціслаўль | Картка № 8, учот працы па прамысл., учот працы па буд-ву, учот працы па с-г. прадпр., натур. рух нас-ва, перапіс б-к. |
| 3 | Магілёў | Картка № 8, учот працы па с-г. прадпр., нат. рух нас-ва, перапіс б-к. |
| 3 | Парычы | Рэгістр. жывёлагад, буд-ва за кастрычнік, картка № 8, учот працы па прамысл. |
| 3 | Пухавічы | Картка № 82, картка № 8, учот працы па с-г. прадпр., нат рух нас-ва, перапіс б-к. |
| 3 | Плешчаніцы | Рэгістр. жывёлагад. буд-ва за кастрычнік, картка № 8, учот працы па прмысл., нат. рух нас-ва. |
| 3 | Расоны | Рэгістр. жывёлагад. буд-ва за кастрычнік, картка № 8. учот працы па прамысл, учот працы па с-г. прадпр., нат. рух нас-ва, перапіс б-к. |
| 3 | Рэчыца | Картка № 8, учот працы па прамысл., учот працы па буд-ву, учот працы па с-г. прадпр., нат. рух нас-ва. |
| 3 | Уваравічы | Картка № 8, учот працы па прамысл., учот працы па буд-ву, учот працы па с-г. прадпр., нат. рух нас-ва. |
| 3 | Церахава | Рэгістр. жывёлагад. буд-ва за кастрычнік, картка № 8, учот працы па прамысл., учот працы па буд-ву, учот працы па с-г. прадпр., нат. рух нас-ва. |
| 3 | Чавусы | Форма № 82, картка № 8, учот працы па прамысл., учот працы па с-г. прадпр., нат. рух нас-ва. |
| 3 | Чэрвень | Рэгістр. жывёлагад. буд-ва за кастрычнік. картка № 8, нат. рух нас-ва. |
| 3 | Шклоў | Рэгістр. жывёлагад. буд-ва за кастрычнік, учот працы па прамыслов., учот працы па с-г. прадпр., перапіс б-к |
| 4 | Асіпавічы | Прарывы па ўсім аснаўным работам. |
| 4 | Бярэзіна | " " |
| 4 | Клімавічы | " " |
| 4 | Клічаў | " " |
| 4 | Крычаў | " " |
| 4 | Краснаполле | " " |
| 4 | Нароўля | " " |
| 4 | Полацк | " " |
| 4 | Петрыкаў | " " |
| 4 | Рагачоў | " " |
| 4 | Ст. Дарожскі | " " |
| 4 | Сенно | " " |




## Уключыліся у конкурс на лепшую р[illegible]ктуру.

| Уключыліся у конкурс | Выклікае на соцспаборніцтва |
|---|---|
| 1. Буда-Кашалеўская | Уваравіцкую |
| 2. Глуская | Любанскую |
| 3. Вешанковецкая | Сенненскую |
| 4. Тураускaя | Жыткавіцкую |
| 5. Чачэрская | Клімавіцкую |
| 6. Клімавіцкая | Чачэрскую |
| 7. Смалявіцкая | Пухавіцкую |
| 8. Чэрыкаўская | Прапойскую |
| 9. Лепельская | Дубровенскую |
| 10. Бярэзінская | Лепельскую |
| 11. Жлобінская | Рагачоўскую |
| 12. Стара-Дарожаская | Асіпавіцкую |
| 13. Бабруйская | Магілёўскую |
| 14. Мсціслаўская | Крычаўскую |
| 15. Барысаўская | Аршанскую |
| 16. Уваравіцкая | Веткаўскую |
| 17. Гомельская | |
| 18 Чашніцкі | Лепельскую |
| 19. Сіроцінская | Бешанковіцкую |
| 20. Ельская | Слуцкую |
| 21. Слуцкая | Ельскую |
| 22. Магілеўская | Віцебскую |
| 23. Касцюковіцкая | Горацкую |
| 24. Лоеўская | Камарынскую |
| 25. Прапойская | Лельчыцкую |
| 26. Сенненская | Лезьнянскую |
| 27. Аршанская | Быхаўскую |
| 28. Быхаўская | Рагачоўскую |
| 29. Асіпавіцкая | Клічаўскую |
| 30. Парыцкая | Глускую |
| 31. Гардоцкая | Лагойскую |

---

Рэдакцыйная калегія: *Арцямкоў.*
*Голант.*
*Магідаў.*

Адказны рэдактар *В. Магідаў.*